



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

3 сакавіка 2017 года №9 (1140)


## Са святам, чароўныя жанчыны!









# Пасадзілі 40 тысяч віёл, каб азеляніць Маладзечна



Валянціна Сянько (злева) і Ала Жаўняровіч займаюцца пікіроўкай расады кветак, каб горад расквітнеў.

старонка 20

Фота Наталлі ТУР.



## Вілейскія абаронцы Курапатаў: "Лёс урочышча ў наших з вамі руках"

старонка 5

## "Мужчыны не плачуць" і іншыя стэрэатыпы, якія могуць прывесці да фатальных наступстваў

старонка 2

# "Мужчыны не плачуць" і іншыя стэрэатыпы, якія могуць прывесці да фатальных наступстваў

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні 8 Сакавіка мы сустрэліся з псіхолагам Анжэлай Клінцэвіч, каб пагутарыць пра тое, як зразумець мужчыну і якія наступствы могуць мець стэрэатыпы, у якія мы верым.**

Анжэла Клінцэвіч працуе псіхолагам аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Расказала, што да яе звяртаецца шмат жанчын, у якіх узнікаюць праблемы ў асабістых адносінах.

– А ўсё таму, што жанчыны забываюцца пра тое, што, каб жыць са сваім мужам у згодзе, ёй трэба забяспечыць яму ўсяго пяць базавых патрэбаў.

1. Шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз страўнік.

– І гэта зусім не стэрэатып. Насамрэч, каб мужчына не думаў пра палюбоўніц, у якіх хараша, спакойна і сыта, усё гэта павінна быць у яго дома.

Мужчыны імкнуцца да таго, каб ім заўсёды было што з'есці, дзе адпачыць, мець сваё жыллё, хвалююцца пра ўласнае здароўе, жадаюць пазбегнуць болю.

– Чаму мужчына часам не сыходзіць ад нелюбімай жонкі да жаданай палюбоўніцы? Ды таму, што ўтульнасць ён цэніць больш. Ці чаму ён, наадварот, збягае з дому, дзе яго ўвесь час "пілуюць"? Ды таму, што мужчына хоча цішыні і адпачынку ў сябе дома.

2. Мужчына імкнецца да таго, каб быць упэўненым у заўтрашнім дні, хоча бяспекі для сябе і сваёй сям'і.

3. Мужчына павінны адчуваць сябе сваім у кампаніі аднадумцаў: сярод заўзятараў, аўтааматараў, паляўнічых, рыбакоў.

– Дайце яму свабоды ў яго захапленні. Мужчына вам аддзячыць, вось убачыце.

4. Не толькі жанчыны чакаюць, што блізкія заўважаць іх новую прычоску або пахваляць смачна згатаваны абед. Мужчыны яшчэ больш чакаюць прызнання сваіх талентаў, чым жанчыны.

**– Хваліце свайго мужчыну! За тое, як ён забіў цвік, за тое, як ён кіруе машынай, за тое, як ён смачна пахне.**

5. Мужчына хоча самарэалізацыі. А рухавік прагрэсу – гэта, як вядома, жанчына.

Дапамажыце свайму мужчыну (ды і сабе загадзя) выбраць занятак, які будзе ўносіць разнастайнасць у жыццё.

– Прапануйце свайму мужчыну разам пайсці ў спартыўную залу, навучыцца фатаграфаваць, паспрабаваць свае сілы ў лацінскіх танцах. Вось убачыце, наколькі зменяцца вашы адносіны, калі мужчына будзе бачыць у вас не толькі спадарожніцу, але і сваю музу.

### "Сцерпіцца – злюбіцца"... але якімі сродкамі

Анжэла Клінцэвіч усё ж перасцерагла, што пры ўсім жаданні дагадзіць свайму спадарожніку, не трэба забываццa пра сябе.

– О, жанчыны любяць ахвяраваць сабой. Паверце, гэтага ніхто не ацэніць. Па-першае, трэба любіць сябе, жыць з сабой у згодзе. Да мяне на кансультацыю прыходзіла жанчына, якая скардзілася на тое, што ў яе першы муж алкаголік, другі – таксама. А яна ўвесь час іх ратуе. Канешне, у гэтай маёй кліенткі ўжо склалася мадэль паводзінаў, яна і не ўяўляе, што бываюць іншыя мужчыны, але самае страшнае, калі давадзіцца чуць: "Сцерпіцца – злюбіцца, затое я замужам, каб суседзі не гаварылі".

Думаць так, кажа псіхолаг, гэта прамы шлях да захворванняў, таму што жанчына ўвесь час жыве ў стане стрэсу.

– Адсюль і сардэчнасасудзістыя захворванні. А мужчыны хварэюць на сэрца і таму, што мамы ім у дзяцінстве гаварылі "Не плач, ты ж мужчына". Вось яны і трымаюць усё ў сабе. А потым паміраюць заўчасна, таму што сэрца не вытрымала.

Раіць Анжэла Клінцэвіч адмовіцца і ад стэрэатыпнага выразу: "Не мужчынская гэта справа".

– Патрыярхальныя замашкі даўно трэба пакінуць у 19 стагоддзі.

Гэта тады мужчыну называлі "грошапрыношчык". А цяпер жанчына, акрамя таго, што працуе на рабоце, прыходзіць дадому і становіцца да пліты, да праса, займаецца з дзецьмі. Прыборка, прыгатаванне ежы, догляд за дзецьмі – гэта проста работа, якую па сілах выканаць і вашаму ненаглядному.

Парады зразумелыя і простыя, але калі ў вас засталіся канкрэтныя пытанні або вам патрэбная індывідуальная кансультацыя, звоніце на тэлефон даверу: **8-0176-74-66-20.** Тэлефон працуе ў будныя дні з 8:00 да 17:00.

– І яшчэ адна парада жанчынам, – падсумоўвае Анжэла Клінцэвіч, – не спяшайцеся даваць праблемы сваім сяброўкам, лепш даверце псіхолагу. Па-першае, мы не спытаемся ні ваша імя, ні месца працы і жыхарства, а па-другое, усё, што вы раскажаце, застанецца ў кабінеце псіхолага, а не пачне ў выглядзе плётак даходзіць да вас з вуснаў іншых сяброўак. Ну, і дыхайце глыбей, яно дапамагае, – усміхаецца Анжэла Клінцэвіч.

**Наталля ТУР.**



Псіхолаг раіць прыслухоўвацца адзін да аднаго і часцей разам рабіць глупствы.



Фота vk.com.

Тым, хто набывае кнігу “1813”, Уладзімір Садоўскі дорыць свой аўтограф.

# Я працую... пісьменнікам

## Колькі грошай прыносіць літаратура, расказваюць творцы

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

“Частую-частую сяброў за прэмію, а грошы ўсё не заканчваюцца”, – успамінаў раман “Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без”. Прэмія склала 10 тысяч еўра.

Пэўныя матэрыяльныя выгоды ад літаратурнай творчасці мелі і папярэднікі Уладзіміра Пракопавіча. Напрыклад, Янка Купала ў пачатку 1940-х раз'язджаў па сталічных вуліцах на аўтамабілі “Шэўрале”.

Машыну падарыў паэту першы сакратар ЦК КП(б)Б **Панцеляймон Панамарэнка** ў 1939 годзе. Некалькі гадоў дагэтуль кіраўніцтва БССР ужо падарыла Янку Купалу іншы аўтамабіль ГАЗ-М-1 савецкай вытворчасці. Але менавіта на “Шэўрале” паэт разам з жонкай **Уладзіславай Станкевіч** з'язджаў у эвакуацыю у часы вайны.

У 1970-х гадах справы ў паэтаў таксама ішлі нядрэнна. За свае зборнікі яны атрымоўвалі ганарары, роўныя заробку настаўніка за некалькі месяцаў.

А які прыбытак літаратурная творчасць прыносіць сёння? На гэтае пытанне адкажуць пісьменнікі рэгіёна.

### Уладзімір Папковіч: дзякуючы статусу пісьменніка атрымаў кватэру ў Віцебску



Паэт **Уладзімір Папковіч** родам з Дварца, што ў Хацэнчыцкім сельсавеце на Вілейшчыне. Закончыў інстытут замежных моў у Мінску.

Працаваць толькі пісьменнікам наш зямляк сабе дазволіць не мог. Некаторы час быў настаўнікам, потым выкладаў у тэхнікуме. Ад 1981 да 2016 года працаваў старшым выкладчыкам на кафедры нямецкай мовы ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце. Звольніўся ў 81 год.

**– У мяне ніколі не было вялікіх акладаў ды ганарараў. Я і пісьменнікам стаў позна – прызнаецца Уладзімір Антонавіч.**

Аднак у нейкай ступені дзякуючы статусу пісьменніка атрымаў у Віцебску кватэру, у якой жыве зараз. Тут ён мае нават свой асобны “кабінет” з кніжкамі і камп'ютарам.

Уладзімір Папковіч піша вершы і займаецца перакладамі празаічных твораў з нямецкай мовы на беларускую. З часоў “перабудовы” творы аўтар і перакладчык пераважна выдае за свой кошт.

Пенсія ў пісьменніка і выкладчыка крышку большая за чатырыста рублёў. Хаця Уладзімір Антонавіч па-ранейшаму лічыць мільёнамі.

– Ніяк не прывыкну да новых грошай, – прызнаецца ён.

### Уладзімір Садоўскі – інжынер, пісьменнік, журналіст



Пісьменнік з Маладзечна, аўтар зомбі-хорара “1813”, **Уладзімір Садоўскі** пасля размеркавання энергетычнага факультэта БНТУ працаваў у нашых Маладзечанскіх электрасетках інжынерам. Рабіў праекты рэканструкцыі электрычных сетак да дажынак.

Затым у 2013 годзе перабраўся ў мінскую праектную фірму, дзе працуе інжынерам-праектантам дагэтуль.

Па словах пісьменніка, ад творчасці прыбытак быў невялікі. Літаральна некалькі ганарараў ад публікацый у літаратурных выданнях. А вось цяпер пасля выхаду першай кнігі ў электронным і папяровым фармаце яго чакаюць выплаты ад рэалізацыі кніг.

Ды на гэтыя грошы не пражывеш, упэўнены Уладзімір Садоўскі. Яны толькі прыемны дадатак да творчасці.

Больш грошай пісьменніку прыносіць іншае хобі – краязнаўства і даследаванні ў галіне гісторыі беларускай архітэктуры.

– Я працую як пазаштатны журналіст партала tut.by, – распавядае Уладзімір. – І публікую ў месяц па некалькі артыкулаў на цікавыя для мяне тэмы.

Акрамя ганарараў, пісьменніку ў гэтай працы падабаецца тое, што ён можа данесці вынікі сваіх краязнаўчых даследаванняў да шырокай аўдыторыі.

Па словах Уладзіміра, праца інжынера творчасці не замінае, хутчэй творчасць і іншыя хобі – гэта спосаб адпачыць ад працы і наадварот.

### Мікола Шабовіч: Як пражыць на заробак кніжкамі?

Паэт ураджэнец Мядзельшчыны **Мікола Шабовіч** працуе выкладчыкам сучаснай беларускай мовы ў педагагічным універсітэце імя Максіма Танка ў Мінску. Асноўная крыніца заробку, па яго словах, гэта выкладчыцкая дзейнасць.

– Выдавецтвы маюць практыку разлічвацца... кніжкамі, – расказвае Мікола Шабовіч. – А кніжкі на сустрэчах з чытачамі можна прадаць.

За ганарары ў літаратурных часопісах і газетах таксама не пражывеш. Некалькі гадоў таму ў “Полымі” на 10 старонках выйшлі 22 вершы ў яго перакладзе на беларускую мову.

– Ганарар я атрымаў 53 тысячы рублёў на старыя грошы, – успамінае Мікола Шабовіч, – Прыкладна столькі, калі не больш, каштавала ў той час пляшка гарэлкі...



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.02 | 2.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8723 | **1,8955** |
| Еўра | 1,9698 | **1,9979** |
| Злоты, 10 | 4,5800 | **4,6475** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2598 | **3,2472** |
| Грыўня, 100 | 6,9370 | **6,9752** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 22.02 і 1.03** | | |
| Еўра | 1.9600/1.9850 | **1.9700/2.0000** |
| Долар ЗША | 1.8600/1.8800 | **1.8750/1.9000** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.02 | 1.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 15,99 | **15,93** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 7,13 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,29 | **3,35** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,38** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,90 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **2,30** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,69 | **0,75** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,80 | **1,40** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Часнок, 1 кг | 7,85 | **6,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,39** |
| Морква, 1 кг | 0,57 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,99 | **1,49** |
| Лімоны, 1 кг | 3,49 | **3,70** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,65 | **2,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,95 | **3,00** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,60** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,69 | **3,00** |
| Агуркі, 1 кг | 4,95 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 7,75 | **5,50** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,85 | **3,75** |
| Вінаград, 1 кг | 3,99 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,15 | **2,19** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,39** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,79 | **2,69** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,39 | **0,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,50** |

НАВІНЫ

## Маршрутка перакулілася з пасажырамі

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 24 лютага у 7:40 раніцы на 45-м кіламетры дарогі Мінск – Мядзел, у Лагойскім раёне. Маршрутны аўтобус з пасажырамі з Вілейкі накіроўваўся ў Бараўляны.

Паблізу вёскі Жабічы, падымаючыся на горку, кіроўца не ўлічыў умовы надвор'я і дарожныя ўмовы. Не справіўшыся з кіраваннем, аўтобус занесла, ён з'ехаў на леву́ю па ходзе руху абочыну і перакуліўся на дзверы. Для вызвалення пасажыраў спатрэбілася дапамога МНС. Бліжэйшымі апынуліся выратавальнікі вёскі Карпавічы.

У выніку ДТЗ з-за моцных парэзаў шклом аднаго з пасажыраў шпіталізавалі. Астатнія абышліся лёгкімі парэзамі.

Па дадзеных ДАІ Мінскай вобласці, за рулём маршрутнага аўтобуса знаходзіўся жыхар Вілейскага раёна, 1956 года нараджэння. Па папярэдняй інфармацыі, у яго нязначныя пашкоджанні, вадзіцель таксама быў шпіталізаваны.

Паводле abw.by.

## На Мядзельшчыне перакуліўся "Опель"

МЯДЗЕЛ

Здарэнне адбылося каля 8 гадзін раніцы 24 лютага ў Мядзельскім раёне. 26-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Опель-Мерыва" ў напрамку Літвы. Пры выбары хуткасці не ўлічыў дарожныя і метэаралагічныя ўмовы, у выніку чаго не справіўся з кіраваннем. Машына з'ехала ў кювет і перакулілася.

Начальнік каравула пажарнай аварыйна-выратавальнай часці пасёлка Нарач Мядзельскага раёна **Андрэй Сакалдынскі** ў вольны ад нясення службы час ехаў па гэтай дарозе. Паблізу вёскі Канстанцінава стаў сведкам дарожна-транспартнага здарэння.

Выратавальнік выцягнуў з машыны двух траўмаваных пасажыраў, якіх на ўласным аўтамабілі даставіў у шпіталь. Кіроўца не пацярпеў.

Па інфармацыі ДАІ, 29-гадовая пасажырка аўтамабіля, жыхарка Паставаў, з цяжкімі траўмамі шпіталізавана. Вядома, што кіроўца быў прышпілены рамянём бяспекі, а пацярпелая знаходзілася на заднім сядзенні і не была прышпіленая.

Аддзел інфармацыі.

## У ноч з 22 на 23 лютага адбылося забойства свінні

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ноччу ў вёсцы Трапалава. 24-гадовы мясцовы жыхар залез у хлеў да свайго суседа і скраў адтуль парсючка. У сваім двары ён яго забіў і пачаў разбіраць.

Сусед згубу выявіў хутка і заявіў пра гэта ў міліцыю. Супрацоўнікі міліцыі на месцы знайшлі "фрагменты" свінні.

Зламыснік затрыманы, ён раней не судзімы, працуе ў гэтай жа вёсцы электрыкам.

– Чаму ён скраў свінню, хлопец пакуль не патлумачыў, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

Наталля ТУР.

## Следчы камітэт шукае сведак аварыі ля інфекцыйнага дыспансера

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 25 лютага ўвечары. 24-гадовы кіроўца, жыхар Маладзечна, ехаў у бок горада.

На 78-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач ён збіў 62-гадовага жыхара аграгарадка Дакудава Крупскага раёна, які пераходзіў дарогу.

Ад атрыманых траўмаў пешаход памёр да прыезду дактароў "хуткай дапамогі".

Па словах **Юрыя Багушэвіча**, кіроўца быў цвярозы, у крыві загінулага знайшлі алкаголь.

Сведкаў і відавочцаў здарэння Следчы камітэт просіць патэлефанаваць па нумары **8 (0176) 770469** следчаму **Раману Арцем'еву.**

Аксана ЯРАШОНАК.

## Паведаміце міліцыі пра выраб і продаж самагону

Калі вам вядомыя факты вырабу і продажу самагону і спіртаўтрымальнай вадкасці, маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце просіць паведаміць па тэлефоне **8 (029) 863-70-46.**

Можна звярнуцца на тэлефонную лінію "П'янству – не" на базе ГУУС Мінаблвыканкама па тэлефоне **8 (017) 2394175**.

За парушэнне антыалкагольнага заканадаўства прадугледжана адміністрацыйная адказнасць.

Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар групы прапаганды і прафілактыкі Маладзечанскага АУСТ.

# Рэйд разам з ДАІ: каму флікер у падарунак, а каму і штраф

МАЛАДЗЕЧНА

**Пятніца, 24 лютага, выклікала лёгкі перапалох у Красным, калі па цэнтральнай вуліцы з мігалкамі адна за адной пранесліся тры машыны ДАІ.**



Фота Наталлі ТУР.

Жыхар Краснага Георгі атрымаў ад ДАІ не штраф, а некалькі флікераў.

Не, гэта было не надзвычайнае здарэнне, маладзечанская ДАІ выправілася ў чарговы рэйд, каб праверыць, ці выконваюць пешаходы і вадзіцелі правілы дарожнага руху.

Пакуль інспектары ДАІ чакалі карэспандэнта газеты, першы парушальнік якраз трапіў у іх поле зроку.

Мужчына, якога пазбавілі правоў кіравання паўгода таму, зноў трапіў у рукі да інспектараў ДАІ.

Дзяжурствa па Красным і яго ваколіцах пачалося пасля 18 гадзін. Якраз сцямнела, і ў святле фар патрульных машын стала бачна, хто пераходзіць дарогу ў адзенні са святлоадбівальнымі элементамі, а хто не.

Першага такога парушальніка мы затрымалі на адной з неасветленых вуліц Краснага.

Мужчына прадставіўся **Георгіем**. Не ведаю, як ён, а я дакладна б інстынктыўна паспрабавала б збегчы пасля таго, як побач спынілася машына ДАІ з чырвона-сінімі мігалкамі і з яе высыпалі тры прадстаўнікі РАУС: начальнік маладзечанскага аддзялення ДАІ **Дзмітры Юркевіч** разам з двума ўчастковымі інспектарамі. Апошняй, з фотаапаратам, выбегла з машыны я.

– Чаму без флікера ў цёмны час сутак? – запытаўся начальнік ДАІ у мінака.

– Ды я тут побач, – разгубіўся мужчына.

– Не рабіце так больш, – сказаў Дзмітры Юркевіч, – аднак, паколькі вы першы парушальнік, вас штрафаваць не будзем, а падорым вам святлоадбівальныя элементы.

Начальнік ДАІ палез у багажнік машыны і дастаў адтуль некалькі флікераў:

– Гэта вам на адзенне. Воз у вас ёсць? Ёсць. Тады гэты флікер вам на воз. Суседзі ёсць? Ёсць. Гэтыя флікеры падарыце суседзям, каб яны таксама не парушалі. Найлепшага.

Міліцыянеры развіталіся, а я спытала:

– А дзе вы жывяце?

– А вось тут, – мужчына выцягнуў руку і паказаў на суседні дом.

Да брамкі свайго дома мужчына не дайшоў метраў 50.

Развітаўшыся з Георгіем, мы паехалі ўверх па вуліцы.

> **Смешна было назіраць, як з горкі спускаўся бус, але ўбачыўшы, што насустрач яму рухаецца экіпаж ДАІ, хутка развярнуўся.**

Але не тут было! 861-ы экіпаж хутка дагнаў бус, кіроўца вымушаны быў спыніцца.

– А я раптам пачуў, што ў машыне нешта ляпаць стала, вось вырашыў развярнуцца, – апраўдваўся ўладальнік блакітнага буса.

ДАІшнікі агледзелі машыну, патрабавалі дакументы.

Пакуль мы ехалі да чыгуначнага пераезда, Дзмітры Юркевіч паспеў расказаць, што ў апошні час павялічылася колькасць ДТЗ з удзелам пешаходаў:

– І справа не ў тым, што вадзіцелі сталі няўважлівымі ці надвор'е, напрыклад, сапсавалася. Шкада, але пешаходы чамусьці думаюць, што ім усе вінаватыя: і спыніцца, і прапусціць. Вядома, гэта так. Але ўсё ж было б няблага, каб і яны самі думалі пра сваю бяспеку. Тое ж датычыцца і дзяцей. Хоць і вучаць іх і дома, і ў школе, што на дарозе трэба быць уважлівым, але ўсё адно здараецца, што выскокваюць на дарогу акурат перад машынай.

Мы займаем месца каля чыгуначнага пераезда ў Красным.

Мне тлумачаць:

– Будзем патруляваць тут, бо забываюцца і кіроўцы, і пешаходы, што пасля таго, як загараецца чырвоны сігнал семафора, чыгуначныя пуці перасякаць нельга.

Пакуль назіраем за цягніком, які праходзіць, Дзмітры Юркевіч працягвае:

– А хутка вясна, на дарогах з'явяцца першыя "падснежнікі". Год таму затрымлівалі мужчыну, які ехаў без тэхагляду. І шчыра прызнаўся: а нашто мне тэхагляд праходзіць: я на машыне два разы ў год выязджаю. Першы раз, калі трэба ў лес па ягады, і другі – за грыбамі.

Падзяжурылі мы на пераездзе. За той час, што там стаяла машына ДАІ, правілы пераезда не парушыў ніхто.

Затое па праезнай частцы дарогі без флікераў хадзілі многія. Штрафавалі, тлумачылі.

Калі я развіталася са сваім экіпажам, мне паабяцалі, што на гэтым праверка не скончылася і назаўтра мне абавязкова паведамяць, колькі пратаколаў было складзена за вечар пятніцы.

І сапраўды, роўна ў 9 гадзін раніцы Дзмітры Юркевіч падсумаваў:

– За ўчарашні дзень у Красным і ваколіцах мы склалі 76 пратаколаў за парушэнні правілаў дарожнага руху. Затрымалі шэсць бясправнікаў, 10 пешаходаў, якія пераходзілі дарогу ў неналежных месцах. Восем кіроўцаў не прапусцілі пешаходаў, чатыры былі не прышпіленыя, двое перавозілі дзяцей без спецыяльных крэслаў.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

# Вілейскія абаронцы Курапатаў: “Лёс урочышча ў нашых з вамі руках”

**Ужо больш за тыдзень пад Мінскам, у лясным масіве Курапаты, стаіць невялікі намётавы гарадок.**

Такім чынам неабыякавыя беларусы выказваюць пратэст супраць пабудовы офіснага будынка, які можа вырасці на месцы масавых пахаванняў.

Забудоўшчык сцвярджае, што тэрыторыя будаўніцтва ўжо не з'яўляецца ахоўнай. Праціўнікі новай пабудовы з гэтым не згодныя: шматлікія дакументы і карты гавораць аб адваротным.

Намётавы гарадок становіцца асабліва людным на выхадныя і ўвечары, калі людзі прыходзяць з работы. Сярод абаронцаў Курапатаў ёсць не толькі мінчане, але і жыхары іншых гарадоў. У ноч з нядзелі на панядзелак падтрымаць абаронцаў прыехалі віляйчане – **Аляксей Сюдак**, **Максім Ціханаў** і **Аляксей Пасынкаў**.


Фота забяспечанае Аляксеем СЮДАКОМ.

Аляксей Пасынкаў частуецца баршчом, які прынесла мясцовая жыхарка.

### “Бараніць сваё – гэта наш абавязак”

– Мы прыехалі ўтрох на сваёй машыне, таму мелі магчымасць акрамя ежы прывезці ў намётавы гарадок дровы, – кажа Аляксей Сюдак. – Там холадна, таму людзі грэюцца ля вогнішча і дровы заўсёды патрэбныя.

Аляксей не адразу знаходзіць словы, каб адказаць, чаму для яго важна стаць на абарону Курапатаў. Адказ падаецца яму надта відавочным і зразумелым.

– Думаю, тут нават тлумачыць нічога не трэба. Як можна паводзіць сябе інакш? Гэта абавязак кожнага беларуса – бараніць сваё, захоўваць святыя для народа мясціны, дзе пахаваныя яго героі.

Хлопцы правялі ў Курапатах адну ноч, але цягам тыдня і на выхадныя прыедуць зноў.

– Атмасфера ў намётавым гарадку вельмі вясёлая і сяброўская, – распавядае Аляксей. – Усё ж там сабраліся аднадумцы. Амаль увесь час спяваюць, каб сагрэцца і заняць сябе нечым. На месца пастаянна прыязджаюць барды, ды і заўсёды знаходзяцца людзі, якія ўмеюць іграць на гітары.

### Мясцовыя бабулі прыносяць бліны і катлеты

Да абаронцаў рэгулярна далучаюцца жыхары дамоў, што стаяць побач. Яны прыносяць ежу, забіраюць пустыя тэрмасы, каб памыць і наноў напоўніць кавай і гарбатай, запрашаюць абаронцаў да сябе, каб пагрэцца ці схадзіць у душ.

– Людзі, якія цяпер наведваюцца ў Курапаты, вельмі розныя, – заўважае Аляксей. – Ёсць і бабулькі з кійкамі, якія прыносяць катлеты і бліны. Ёсць маладыя мамы з дзецьмі ў вазках. Сярод іх адчуваецца моцная падтрымка і салідарнасць: якраз тое, чаго часам так бракуе беларусам. Гэта быццам востраў свабоды.

На ноч у намётах застаюцца пераважна мужчыны сярэдняга ўзросту, але хапае і дзяўчат.

Усё неабходнае з'яўляецца ў намётавым гарадку досыць аператыўна. Людзі з месца паведамляюць праз сацыяльныя сеткі, што трэба, – дровы, пітная вада, паліва для генератара. Цягам дня гэтыя рэчы прывозяць неабыякавыя людзі.

З санітарнымі ўмовамі таксама няма праблем: смецце выкідваецца ў бакі каля бліжэйшых жылых дамоў, ежа падаграваецца на вогнішчы. А ў прыбіральню можна схадзіць на бліжэйшую аўтазапраўку ці да мясцовых жыхароў.

### “Будучыня Курапатаў залежыць ад усіх нас”

Аляксей не бярэцца прагназаваць, чым можа скончыцца сітуацыя ў Курапатах. Асабліва калі прыгадаць, што шмат гадоў таму пратэст супраць пабудовы кальцавой дарогі, што праходзіла па тэрыторыі ўрочышча, цягнуўся восем месяцаў. І дарогу ўсё ж пабудавалі.

– Зранку ў панядзелак мы ўсе вельмі ўсцешыліся, бо прыйшоў прараб і сказаў, што сёння работы весціся не будуць, – кажа Аляксей. – Будаўнікі не могуць працаваць у такіх умовах, таму вывелі тэхніку. Сказалі, што начальства будзе вырашаць, што рабіць далей.

Ужо даехаўшы да Вілейкі, хлопцы даведаліся, што камісія ў адміністрацыі Першамайскага раёна Мінска зацвердзіла план будаўніцтва ў раёне Курапатаў.

– Цяжка казаць, што будзе далей, – кажа віляйчанін. – Усё залежыць ад таго, ці гатовыя мы самі змагацца за Курапаты. Ад таго, колькі нас і які грамадскі рэзананс нададзім сітуацыі.

### Улада папрасіла пачакаць

1 сакавіка адбылася сустрэча прадстаўнікоў абаронцаў Курапатаў са старшынёй Мінгарвыканкама **Андрэем Шорацам**. Чыноўнік папрасіў штучна не напружваць сітуацыю вакол будаўніцтва бізнес-цэнтра.

Пра сустрэчу паведамляе БелТА.

“Мы вас пачулі. Правядзём кансультацыі з Міністэрствам культуры, іншымі арганізацыямі, навукоўцамі”, – сказаў Андрэй Шорац. Ён паабяцаў, што дыялог па гэтай тэме працягнуць. Прадстаўнікі гарадскіх улад і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі канстатавалі, што на тэрыторыі забудовы няма месцаў пахаванняў ахвяр рэпрэсій, з чым пагадзіліся ўсе ўдзельнікі сустрэчы.

**Даведка “РГ”.** Курапаты – лясны масіў на паўночнай ускраіне Мінска, дзе былі выяўленыя масавыя пахаванні людзей, расстраляных НКВД у 1937-1941 гадах. Колькасць ахвяр рознымі даследчыкамі ацэньвалася ад 7 да 250 тысяч чалавек. Сусветную вядомасць атрымалі пасля таго, як у 1988 годзе выйшаў артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва, у якім былі сабраныя сведчанні мясцовых жыхароў аб расстрэлах у далёкім лесе.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E- mail: alesia.ptushka@gmail.com

## Працоўныя месцы ў “Надзеі” і страты ў аўтапарку

### Абмеркавалі вынікі 2016 года

ВІЛЕЙКА

Сума падаткаў, якая паступіла ў гарадскі бюджэт у 2016 годзе, засталася амаль на ўзроўні 2015. У горадзе пабудавалі два шматкватэрныя дамы: арэндны і па дзяржзаказе.

Гэтыя і іншыя факты з жыцця Вілейкі ў 2016 годзе абмеркавалі на сумесным пасяджэнні райвыканкама і Савета дэпутатаў.

Па словах **Генадзя Касцевіча**, намесніка старшыні райвыканкама па эканоміцы, за мінулы год у Вілейцы адчынілі 17 магазінаў.

Выканалі паказчыкі па экспарце тавараў і паслуг. Прычым імпарту паслуг практычна не было, адзначыў намеснік старшыні.

Замежных інвестыцый прыцягнулі менш, чым планавалі. Тут добра спрацавалі дзіцячы аздараўленчы цэнтр “Надзея-21 стагоддзе”, Velcom, “Белтэлекам”.

“Надзея” прапанавала новыя працоўныя месцы для жыхароў Вілейшчыны. Таксама вакансіі з'явіліся ў ПМК-88, ЖКГ, у філіяле УП “Мінгаз” у Бубнах, на прадпрыемствах “Белнафтахім”.

На базе рамонтнага завода адчынілі завод пенапласту. На сённяшні дзень там яшчэ патрэбныя ўпакоўшчыкі.

У Вілейскім цэнтры занятасці на ўліку сёння стаіць 187 беспрацоўных. Летась іх было 279. Беспрацоўе складае 1%.

40 тысяч рублёў у якасці субсідый на развіццё ўласнай справы атрымалі ад Цэнтра занятасці 17 чалавек, якія вырашылі займацца прадпрымальніцтвам. Усяго ж прадпрымальнікаў летась было 1559.

Рэальны заробак на Вілейшчыне – 509 рублёў. Па-ранейшаму няшмат за сваю працу атрымоўвалі летась у адукацыі і медыцыне. Сярэдні заробак вілейскіх настаўнікаў – 457 рублёў, дактароў – 517.

Самыя нізкія заробкі ў КБА і Куранецкім Доме культуры. Няшмат арымліваюць і ў будаўнічых, і ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах.

У гаспадарках самыя нізкія заробкі ў “Новай Любаніі”, “Новай Віліі”, Вілейскім аграсэрвісе і Стайках. Але, па словах старшыні Вілейскага райвыканкама **Віктара Ката**, мінімальны заробак тут атрымліваюць.

Самыя высокія заробкі ў 2016 годзе былі ў “Белтэлекаме”, ДРСУ-13, філіяле “Бубны-мінгаз”.

У інвестраў, якія ўзялі гаспадаркі, а цяпер не выконваюць свае абавязкі, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы будзе забіраць райвыканкам. Трэцяга сакавіка такі лёс чакае “Вілію-агра”. Яе забяруць ад завода безалкагольных напояў ва ўласнасць райвыканкама.

Актуальным застаецца пытанне, што рабіць з будынкамі зачыненых вясковых школ. Па словах Генадзя Касцевіча, гэтыя будынкі ў Карпавічах і Латыгалі адрамантаваныя, у вельмі добрым стане. Магчымае вырашэнне – аддаць іх пад жыллё людзям.

Значныя страты ў аўтапарка. Па словах Віктара Ката, райвыканкам шмат робіць для таго, каб справы там ішлі лепш. Ужо пералічылі грошы на два новыя аўтобусы. Тры раёны ў Мінскай вобласці заказалі новыя аўтобусы: Маладзечанскі, Нясвіжскі і Вілейскі. Калі ў двух першых яны ўжо возяць пасажыраў, то на вілейскіх вуліцах іх пакуль няма. Прычына, на думку старшыні, у бяздзейнасці кіраўніцтва аўтапарка.

Не лепшая сітуацыя, расказаў Генадзь Касцевіч, і ў вілейскага райспажыўтаварыства. Тут, на яго думку, таксама варта ўдасканальваць працу. Трэба завозіць прадукты айчыннай вытворчасці, а не дарагую замежную кансервацыю, якая гадамі стаіць на паліцах.

Галоўнае, забяспечыць вяскоўцаў элементарнымі прадуктамі, хлебам, малаком, кілбасой, а не гаварыць пра нейкія высокія матэрыі. Вазіць па вясковых магазінах алкагольныя напоі і цыгарэты, хоць іх добра купляюць, таксама не прымальнае выйсце, лічаць у райвыканкаме.

Пра падрыхтоўку гаспадарак да пасяўной кампаніі распавёў начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання **Ігар Шавялёў**. Сёлета у раёне будуць сеяць збожжа, лён, кукурузу, рапс, травы.

Для гэтага патрэбныя ўгнаенні, адрамантаваная тэхніка, насенне. У станоўчым святле адзначылі “Нарачанскія зоры”, “Сцешыцы”, “Чурлёны”. А вось у “Новай Любаніі”, “Стайках”, “Ільі” ёсць праблемы. У “Новай Любаніі” да нядаўняга часу нават працоўны дзень быў да 15:00.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У школе №2 тыдзень беларускай мовы ператварыўся ў дэкаду

МАЛАДЗЕЧНА

**“Беларуская – мая мова!” Пад такім дэвізам правялі ўсе мерапрыемствы ў рамках тыдня беларускай мовы, падрыхтаваныя настаўнікамі і вучнямі сярэдняй школы №2 Маладзечна.**

Запланаваны прадметны тыдзень ператварыўся ў дэкаду: беларуская мова панавала ў школе ад 16 да 25 лютага.

З самага ранку 16 лютага вучні, настаўнікі і госці нашай школы змаглі аднавіць у сваёй памяці выказванні знакамітых беларусаў пра нашу родную мову.

Традыцыйны рэспубліканскі конкурс для аматараў беларускай мовы і літаратуры “Буслік-2017” распачаў 16 лютага мерапрыемствы тыдня. У гэтым годзе ў нашай школе 128 удзельнікаў. Такая колькасць не можа не радаваць: значыць, цікавасць да роднай мовы не знікае, а нават павялічваецца.

У гэты ж дзень зладзілі другі этап дыстанцыйнай алімпіяды для педагогаў Мінскай вобласці, дзе маладзечанскую школу №2 прадставіла аўтар гэтых радкоў.

У гэты ж дзень вучні старэйшых класаў зладзілі выставу “Трапнае слова. Фразеалагізмы ў малюнках”. Многія добра вядомыя фразеалагізмы знайшлі новае, сучаснае, часам шаржыраванае ўвасабленне. І без падказак адгадаць іх было б зусім не проста.

На працягу наступных васьмі дзён прайшоў своеасаблівы марафон віктарын, гульняў, заданняў, рэбусаў, загадак, падарожжаў: “Падарожжа па родным краі” для сямікласнікаў, “Шчаслівы выпадак” для вучняў адзінаццатага класа. “Чэмпіёны ў моўным шматбор’і” вызначыліся ў паралелі шостых класаў, “Разумнікі і разумніцы” знайшліся сярод таленавітых дзевяцікласнікаў. “Пяць зорак” сабралі ўсе каманды восьмых класаў. У пошуках “Скарбаў народнай мудрасці” падарожнічалі пяцікласнікі.

Прыемна, што веды многіх нашых вучняў па беларускай мове і літаратуры выходзяць за межы школьнай праграмы, а эрудыцыі некаторых можна толькі пазайздросціць.

Аказваецца, нашы вучні добра ведаюць заслугі беларускіх спартсменаў, арыентуюцца ў самых знакавых момантах гісторыі краіны. Яны могуць узгадаць родныя мясціны многіх беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, з упэўненасцю карыстаюцца асноўнымі паняццямі мовы і літаратуры, паспяхова прымяняюць вывучаныя правілы на практыцы.

21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, свята адчувалася ўжо на ўваходзе ў школу. Тут змясцілі вершы з традыцыйнымі беларускімі словамі ветлівасці, а таксама прапанова гаварыць па-беларуску.

Ужо традыцыйна меню ў сталовай 21 лютага таксама склалі пабеларуску. Прыемна, што многія настаўнікі і вучні падтрымалі задуму і пры выбары страў карысталіся менавіта беларускімі назвамі.

**У фае школы размясцілі выставу малюнкаў кветак і ягад, назвы якіх у рускай мове гучаць зусім па-іншаму.**

Многія з цікавасцю спыняліся каля гэтай выставы і, магчыма, адкрывалі для сябе прыгожыя беларускія назвы.

Для вучняў старэйшых класаў арганізавалі сустрэчу з маладой беларускай паэткай, перакладчыцай, журналісткай, нашай зямлячкай **Аксанай Ярашонак-Камінскай**. На працягу сустрэчы панавала прыемная, цёплая атмасфера.

Аксана не толькі чытала свае творы, але і расказвала пра крыніцы натхнення, прыгадала гісторыі стварэння некаторых вершаў, успомніла свае юнацкія гады.

Яна ўзгадала, што паўплывала на выбар прафесіі, а таксама падзялілася сакрэтамі сваёй прафесійнай дзейнасці і нечаканасцямі, з якімі прыйшлося сустрэцца ў журналістыцы.

Хочацца верыць, што тыдзень беларускай мовы прынёс прыемныя, цікавыя і карысныя хвіліны ўсім яго ўдзельнікам, пакінуў толькі станоўчыя эмоцыі, даў магчымасць кожнаму адчуць і сказаць: “Беларуская – мая мова”.

**Таццяна ІВАНЕНКА, настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ №2 Маладзечна.**



Леанід Путырскі дорыць уласныя кнігі Лідзіі Князевай. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# Вернутыя імёны і ўдзячныя сваякі

## Клуб “Пошук” адзначыў 30-годдзе

МАЛАДЗЕЧНА

**За 30 год – амаль дзве тысячы вернутых з нябыту імёнаў. Гэта мала, упэўненая кіраўнік клуба “Пошук” Лідзія Князева.**

Мала таму, што ў часы Вялікай Айчыннай вайны ў маладзечанскім лагеры “Шталаг-342” загінула 33 тысячы 150 чалавек.

І ўсё ж у 30-гадовы юбілей клуб “Пошук”, што працуе ў маладзечанскай школе №5, мог пахваліцца сваімі вынікамі.

У 1986 годзе настаўніца Лідзія Князева стварыла музей школьнага мікраёна. Праз год ён ператварыўся ў клуб “Памяць”.

– Лёгка не было ніколі, – прыгадвае кіраўнік клуба. – У 1987 годзе мы ўстанавілі толькі адно імя загінулага ў шталагу. І ў 1988-м – адно, у 1989-м – два. А пасля некалькі год увогуле ні аднаго імя не знайшлі.

Аднак цяжкасці не спынялі Людзію Князеву і сяброў яе клуба. Тады, у 1987-м, з энтузіязмам за патрэбную справу пошуку ўзяліся старшакласнікі. На свяце 30-годдзя клуба прысутнічала адна з былых вучаніц школы, выпускніца 1990 года **Наталля Івашкевіч**.

– Вельмі добра памятаю той час, калі ў школе стварылі музей, а потым клуб, – прыгадвае жанчына. – Я была экскурсаводам.

Наталля прыгадала, як разам з настаўніцай працавалі на тэрыторы маладзечанскай вайсковай часці і станказавода, знаходзілі асабістыя рэчы і медальёны салдат. Вельмі кранальна было, калі прыязджалі сваякі тых салдат, імёны якіх мы ўстанавілі, расказвае Наталля. Па яе словах, кожны адчуваў тады, што зрабіў свой унёсак у патрэбную добрую справу.

### Доктар Леанід Путырскі: З “пошукаўцаў” не вырастуць абыякавыя людзі

Цікава, што некаторыя з “пошукаўцаў” пасля заканчэння школы выбіраюць прафесію медыка. Наталля працуе галоўнай медсястрой у маладзечанскай бальніцы. У медыцынскім універсітэце вучацца і некаторыя іншыя вучні Лідзіі Князевай.

Чаму ж гэтыя маладыя людзі абіраюць медыцыну? Адказ на пытанне даў яшчэ адзін госць, выпускнік пятай школы, прафесар, доктар-мамолаг **Леанід Путырскі**.

– З тых вучняў, якія працуюць у клубе “Пошук”, не могуць вырасці абыякавыя людзі, – перакананы прафесар.

А медыцына – гэта такая галіна, дзе якраз і павінны працаваць неабыякавыя. Хаця сёння, на маю думку, можна назіраць і тое, што сюды прыходзяць выпадковыя людзі.

Леанід Путырскі выказаў думку, што заняткі ў “Пошуку” – прыклад таго, як выхоўваць патрыятызм без прымусу. Я часта крытыкую розныя моладзевыя арганізацыі за тое, што яны сілай цягнуць на свае мерапрыемствы, падзяліўся доктар. Тут жа ўсё адбываецца добраахвотна.

Па словах Лідзіі Князевай, за 30 год яны знайшлі 130 сваякоў загінулых. У канцы 1980-х яшчэ былі жывыя ўдовы салдат. Яны тады прыязджалі ў школу. Знайсці сваякоў нялёгка. Часта было, што чалавек нарадзіўся ў адной мясцовасці, у войска прызываўся з іншай. А здараецца і так, што тых населеных пунктаў, адкуль салдат ішоў у войска, ужо няма на карце.

І ўсё ж за 30 год клуб мае шырокую “геаграфію”. Лісты прыходзяць з Беларусі, Расіі, Украіны. Пішуць з Сахаліна, Ненецкай аўтаномнай акругі. Неяк у клубе спрабавалі на карце адзначаць сцяжкамі тыя вёскі і гарады, адкуль прыходзяць лісты. Але прыйшлося адмовіцца ад гэтай задумы, бо сцяжкоў было шмат.

Усе канверты, з якімі працуюць “пошукаўцы”, пазначаныя зялёнай або чырвонай паласой. Зялёная – значыць, дапамаглі людзям, установілі імя, адшукалі сваякоў. Чырвоная – пакуль не дапамаглі.

### У падарунак – 200 канвертаў

Да 11 красавіка, Дня вязняў фашысцкіх канцлагераў, у мемарыяле “Шталаг-342” павінны з’явіцца мемарыяльныя дошкі з 200 вернутымі імёнамі. “Пошукаўцы” ўжо склалі спіс і падалі яго на ўвекавечанне.

За сродкамі на мемарыяльныя дошкі клуб звяртаецца ў Маладзечанскі райвыканкам. Па словах Лідзіі Князевай, за 30 год не было такога выпадку, каб ім адмовілі.

На сённяшні дзень у клубе працуюць 38 вучняў. Часта дзеці, якія прыходзяць сюды ў пятым класе, застаюцца да адзінаццатага.

Ужо колькі год “Пошук” працуе не толькі са “Шталагам-342”. Лідзія Князева і яе вучні дапамагаюць сваякам знайсці месцы пахавання загінулых у Беларусі салдат.

Не так даўно, прыгадвае Лідзія Князева, прыязджала жанчына з Іркуцка. Некалькі сутак яна дабіралася на цягніку, каб убачыць магілу свайго бацькі, якую “пошукаўцы” знайшлі ў адной з вёсак Чэрвеньскага раёна.

– Жанчына была ўжо ў сталым узросце, – прыгадвае настаўніца, – ехала сюды з вялікім хваляваннем, увесь час у цягніку піла таблеткі.

Некалькі дзён госця з Іркуцка правяла ў Беларусі. Лідзія Князева са сваім мужам вазілі яе на магілу бацькі ў Чэрвеньскі раён.

Ад’язджала жанчына зусім з іншымі пачуццямі. Яна ўбачыла, што брацкая магіла, дзе пахаваны бацька, дагледжаная. І калі ехала з Маладзечна ў Іркуцк, не выпіла ніводнай таблеткі.

Цяпер клуб пашырыў сваю дзейнасць. Вучні працуюць са сталымі людзьмі. Гэта ветэраны вайны, малалетнія вязні канцлагераў, ветэраны педагагічнай працы. Для іх школьнікі арганізоўваюць розныя майстар-класы, ладзяць вясёлыя мерапрыемствы, разам наведваюць інвалідаў.

Чаго не хапае клубу для працы? Гэта добра ведае намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Алена Парахня**, якая працуе ў адным кабінеце з Лідзіяй Князевай.

Намеснік разам з дырэктарам школы **Яўгенам Макарэвічам** падарылі клубу 200 канвертаў.

Дзве тысячы з 33 тысяч 150 – гэта “пясчынка”, упэўненая Лідзія Князева. Таму працы ў клуба яшчэ шмат.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- **ВАГОНКА** (сасна, асіна, вольха), **ДОШКІ ДЛЯ ПАДЛОГІ**, шчыт мэблевы, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ**, плінтус, брусок і інш. ў Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. www.izlesa.by ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*
- Сетка-рабіца ацынкаваная. Т. (8-033) 6111186.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- МТЗ-80 у добрым рабочым стане, 6000 руб. Т. МТС (8-029) 2521691.
- Прычэп 2 ПТС 4 трактарны, 1900 руб. Т. (8-029) 3278170.*
- Трактар Т-40 з дакументамі, 1700 руб. Т. (8-044) 7116688.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

- Камп'ютарны стол. Размер: 130x85x165 см. Т. (8-029) 1845892.*
- Секцыя "Ясельда" ў выдатным стане, дарожкі, дываны (ковры) 2x4; 2,70x1,40 м, нядорага. Т. (8-0176) 534854, (8-029) 5625384.
- Спальны гарнітур "Шчара", б/у. Т. (8-0176) 535606, МТС 8596151.*
- Сценка 4-секцыйная, колер цёмна-карычневы, б/у. Цана – да 200 руб. Т. (8-044) 5532351.*

**Музінструмент**

- Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Іншае**

- Вадкія (жидкие) шпалеры (обои). Продаж. Нанясенне. ІП Кавалевіч П.В. УНП 691887793. Т. (8-029) 6095700.
- Веласіпед. Т. (8-029) 5019550.*
- Добрае сена ў в. Абадоўцы Вілейскага раёна. Тэрмінова! Т. МТС (8-029) 7079054.*
- Кабан альбо палова кабана мясам. Т. Вэлком (8-029) 3587062. Інна.
- Сена. Т. (8-029) 6870898.*

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Матаблок альбо міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Драбіны (стремянку) алюмініевыя з рабочай вышынёй не менш за 4 м. Т. (8-029) 6927353.*
- Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*
- Дахавыя, бетонныя, аддзелачныя, зварачныя, дэмантажныя, земляныя работы. Кладка блокаў, цэглы; сцяжкі. Агароджы. Электрыка. Спілоўванне дрэў. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.
- Масажыст шукае работу. Т. (8-029) 2+609392.
- Шукаю падпрацоўку. Досвед: усе віды фасадных, аддзелачных, будаўнічых работ Т. (8-029) 5526667, (8-029) 3436825.*
- Аддзелачныя работы. Уцяпленне. Т. (8-029) 2775694.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

- Мантажнікі стальных металаканструкцый сэндвіч-панэляў. Т. (8-029) 2607921.*
- Вадзіцель кат. Е, ДАФ, 1996 г.в., блізкая і далёкая РФ. Т. (8-029) 6893798.*

# Чыя логіка лепшая – жаночая ці мужчынская?

**Пытанне аб жаночай логіцы вельмі часта можна сустрэць у шматлікіх жартах, анекдотах ці нават фільмах. Менавіта пра яе складаюць розныя гісторыі і легенды.**




Усміхніцеся!

Вельмі рэдка мы гаворым у адрас мужчыны ў сітуацыі, калі нешта зрабіў не так: "Ах, ну гэта проста мужчынская логіка". Што тычыцца жанчын, дадзенае выказванне можна пачуць даволі часта. Некаторыя могуць нават аджартоўвацца такім чынам.

Перш чым казаць пра гэту праблему, неабходна разабрацца, што ж такое логіка. Логіка – навука аб формах і законах правільнага мыслення. Можна зрабіць выснову, што названая намі жаночая логіка – гэта спосаб мыслення і нават размовы, дзе лагічнасць і паслядоўнасць саступае месца імпульсіўнасці і пачуццям.

**Жанчыны мульцізадачныя**

Але самае простае тлумачэнне дадзенага пытання – гэта тое, што жанчына жыве і думае пачуццямі, а мужчына – галавой. Мужчына гатовы разгледзець усё вакол аб'ектыўна, у жанчыны часцей за ўсё гэта атрымліваецца больш суб'ектыўна. Мужчына ўспрымае логіку і цэласнасць, жанчына – канкрэтыку і дэталі.

Усё гэта залежыць ад перажытага досведу. Сустракаюцца жанчыны з "мужчынскім" спосабам мыслення і мужчыны з "жаночым". Розніца ў мысленні мужчын і жанчын абсалютна відавочная. Як высветлілі амерыканскія неўролагі, гэта тлумачыцца значнымі адрозненнямі ў нейронавай структуры мозга.

У рашэнні любой складанай задачы задзейнічаны абодва паўшар'і. Але ў мужчыны яны больш ізаляваны адзін ад аднаго. Паток інфармацыі абмежаваны, адсюль вынікае ўласцівасць мужчынскага інтэлекту – яго адназначнасць. Мужчына вырашае праблемы па адной, адна за другой, яго мысленне паслядоўнае. А ў жанчыны абодва паўшар'і выдатна звязаны, што дазваляе жанчыне быць мульцізадачнай. Жанчына ўмее думаць і рабіць шмат спраў адначасова, на што мужчына не здольны. Гэта даволі часта прыводзіць у тупік мужчын.

Мульцізадачнасць дазваляе жанчыне быць больш збалансаванай і ўніверсальнай. Жанчыне ўласціва спалучаць логіку і інтуіцыю. У мужчын наадварот, інфармацыя цыркулюе практычна ізалявана ў левым і правым паўшар'і. Мужчына выкарыстоўвае логіку і інтуіцыю паасобку. Гэта розніца ляжыць у аснове мноства непаразуменняў паміж мужчынам і жанчынай.

Напрыклад, мужчыны паказваюць сябе лепш у халодным аналізе, а жанчынам цяжэй разважаць непрадузята.

**Жанчына думае і адчувае адначасова, мужчына думае і адчувае паасобку.**

Напрыклад, жанчына задае пытанне мужчыну, які глядзіць тэлевізар з панурым тварам: "Пра што ты думаеш?", у адказ чуе "Ні пра што". Даволі часта жанчына можа падумаць, што мужчына нешта не дагаворвае. На самой справе, жанчына рэагуе эмацыйна, і пытанне гэта пра эмоцыі. У жанчыны заўсёды круцяцца розныя думкі ў галаве, прычым яны могуць быць зусім не звязаныя адна з адной.

**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг гімназіі №10 Маладзечна.**

**Ад рэдакцыі.** Такое меркаванне на тэму жаночай і мужчынскай логікі жанчыны-псіхолага. Як разглядае гэту тэму спецыяліст-мужчына, чытайце ў адным з наступных нумароў "РГ".

## Адрозненні мыслення

**Перавагі жаночага мыслення:**

1. Уменне спраўляцца з вялікай колькасцю спраў адначасова
2. Баланс паміж рознымі справамі
3. Універсальнасць
4. Нізкая рызыка пацярпець няўдачу ў кожнай са спраў
5. Добрая памяць
6. Хуткасць мыслення
7. Уменне спалучаць лагічнае мысленне з эмоцыямі
8. Развітая гаворка
9. Сацыяльнае развіццё

**Недахопы жаночага мыслення:**

1. У адзінкавых вельмі складаных справах усе рэсурсы мозга не задзейнічаныя (праблема факусіроўкі).
2. Праблемы з дасягненнем піку выніковасці
3. Падмена лагічных разваг асацыяцыямі
4. Неабдуманасць учынкаў
5. Праблема з абстрагаваннем, цяжка аддзяліць логіку ад эмоцый
6. Павярхоўнасць у сур'ёзных пытаннях, сур'ёзнасць у дробязях.

**Перавагі мужчынскага мыслення:**

1. Уменне рабіць адну справу вельмі добра, уменне факусіравацца
2. Дасягненне піку выніковасці
3. Уменне думаць лагічна, не прымешваючы асацыяцыі
4. Уменне думаць справядліва і самакрытычна, абдумванне ўчынкаў
5. Прастораве мысленне
6. Расстаноўка прыярытэтаў
7. Развітае абстрактнае мысленне
8. Уменне запамінаць толькі важнае
9. Добрая каардынацыя рухаў.

**Недахопы мужчынскага мыслення:**

1. Цяжка спраўляцца з мноствам спраў аднолькавай важнасці
2. Дасягненне піку бяздарнасці
3. Нізкі эмацыйны інтэлект (праблема вырашаецца толькі тады, калі мужчына факусіруецца)
4. Павольнасць прыняцця рашэння з-за абдумвання ўчынкаў
5. Спецыялізацыя на бескарысных справах, высокая рызыка правалу
6. Складана гаварыць пра эмоцыі
7. Агульны дысбаланс, пастаяннае пераключэнне паміж крайнасцямі, халодным аналізам і неразважлівасцю
8. Горшая памяць, няўвага да дэталяў

Абедзве стратэгіі мыслення маюць права на існаванне, ні адна з іх не лепшая за другую, яны дапаўняюць адна адну. У выпадках, калі дасць маху мужчына, жанчына можа выратаваць сітуацыю, і наадварот.

## Ці мае Калабок правы?

МАЛАДЗЕЧНА

**Раённая квэст-гульня "Прававы турнір" прайшла ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 25 лютага.**

У ёй прынялі ўдзел каманды сярэдніх школ №№1, 4, 9, 14, гімназій №№ 6, 10, а таксама Палачанскай СШ. Пасля прадстаўлення "візітных картак" удзельнікі адправіліся па станцыях, згодна з маршрутным лістом.

На станцыі "Знамянальныя даты календара" вучням прапанавалі праверыць веданне дзяржаўных і міжнародных святаў. Літаратурная віктарына заключалася ў тым, каб вызначыць правы, якім скарысталіся казачныя персанажы. "Шукалі" пэўныя правы нават у песнях. Даўжэй за ўсё ўдзельнікі затрымаліся на станцыі "Што? Дзе? Калі?", бо ім давялося даваць адказы на пытанні ў шасці раўндах гульні.

Таксама юныя праваназнаўцы расшыфроўвалі рэбусы, складалі псіхалагічны партрэт гаспадара рэчы, афармлялі рэкламную ўлётку, накіраваную на папярэджанне правапарушэнняў сярод моладзі.

– Мерапрыемства спадабалася, цікавыя заданні, было лёгка працаваць у камандзе, – падзяліўся ўражаннямі **Аляксандр Ясевіч** з Палачанскай сярэдняй школы. – Самым складаным для нас было адгадваць розныя паняцці і даты. На станцыях мы адчувалі сябе камфортна, таму што вядучымі былі нашы аднагодкі – прадстаўнікі моладзевых парламента і прэс-цэнтра.

Пераможцай турніру стала каманда маладзечанскай сярэдняй школы №4. Дыпломы лаўрэатаў атрымалі прадстаўнікі СШ№1 і гімназіі №10 Маладзечна.

**Надзея БОБРЫК, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

## Каля Лядовага палаца машына збіла двух маладых людзей

МАЛАДЗЕЧНА

Абое цяпер у рэанімацыі ў крайне цяжкім стане.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" распавёў начальнік Маладзечанскай ДАІ **Дзмітры Юркевіч.**

Кіроўца "Форд-Эскорта" каля апоўначы рушыў з боку Смаргоні на Мінск па Вялікім Гасцінцы. На рэгулюемым пешаходным пераходзе каля Лядовага палаца збіў маладых людзей 23 і 24 гадоў.

Іх шпіталізавалі з траўмамі рознай ступені цяжкасці.

Дзмітры Юркевіч дадаў, што падчас аварыі святлафоры і ліхтары працавалі. Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца быў цвярозы.

Прычыны аварыі высвятляюць.

**Аддзел інфармацыі.**




**Сёння Дзень роднай мовы. Гісторыя шостая. Якім бывае масла**

Сапраўды, старэйшыя людзі, якія памяталі даваенныя гады, расказвалі, што многія вайскоўцы Чырвонай Арміі, якія ўдзельнічалі ў паходзе ў Заходнюю Беларусь, не ведалі пра існаванне сметанковага масла. Быў выпадак, калі падчас частавання савецкага афіцэра ў сям'і заходнебеларускага селяніна афіцэру прапанавалі адведаць смак сметанковага масла. У адказ гэты афіцэр са здзіўленнем заznaчыў, што "у вас какое-то необычное масло, потому что нормальное масло в бутылках". *Ананім.*

**Краязнаўца Аляксандр Харытон з Краснага адзначыў 80 год: ён не чакае зручнага часу для ўчынку**

Шаноўны спадар Алесь! Ад шчырага сэрца віншую вас з юбілеем! Зычу вам усяго толькі добрага, поспехаў і натхнення ў нашай агульнай справе, а самае галоўнае – моцнага здароўя і доўгіх год жыцця! ***З павагай, Алесь Раткевіч.***

**У Расіі здымуць мастацкі фільм пра Мікалая Кісялёва, подзвіг якога пачынаўся ў Даўгінаве (Відэа)**

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Не прайшло і года, як вы апублікавалі мой матэрыял пра Кісялёва. Усе факты, апісаныя ў гэтым матэрыяле, як і ў маёй кнізе "Даўгінаўскі летапіс", заснаваныя выключна на архіўным матэрыяле. Прагледзіўшы невялікі ролік пра зняты фільм, міжволі задаешся пытаннем, адкуль сцэнарысты бралі факты? Столькі фальсіфікацый і адкрытага вымыслу ў некалькіх хвілінах роліка проста здзіўляюць! А пасля мільёны гледачоў пасля прагляду фільма будуць лічыць, што ўсё так і было! Крыўдна, што нашу гісторыю далёка за межамі нашай краіны пішуць і перапісваюць далёкія ад гісторыі людзі, зневажаючы факты і дакументы на карысць камерцыйных інтарэсаў! ***Плавінскі.***

# На шведскім радыё штодзень “забіваюць” шмат людзей

СТАКГОЛЬМ

**Не ведаю як вам, а мне цяжка ўявіць, што недзе ў свеце людзі да гэтага з нецярпеннем чакаюць выхаду новай радыёпастаноўкі. Калі пачынаецца трансляцыя, яны не адыходзяцца ад сваіх прымачоў, а спектаклі запісваюць і захоўваюць у сваёй уласнай фанатэцы.**

Верыцца з цяжкасцю, але калі пра гэта гаворыць **Дзмітры Плакс**, пісьменнік і перакладчык, рэжысёр і драматург радыётэатра Шведскага нацыянальнага радыё, то застаецца толькі адкрыць рот і ісці за ім па рэдакцыі шведскага радыё, слухаць і здзіўляцца.

Дзмітры Плакс – ураджэнец Беларусі, іміграваў у Швецыю 20 гадоў таму.

– Аўдыёдрама папулярная не толькі ў Швецыі, напрыклад, Бі-Бі-Сі робіць, акрамя шматлікіх іншых пастановак, серыял The Archers, які ідзе ў эфір, калі не памыляюся, шэсць разоў на тыдзень ад пачатку 1950-х гадоў. Колькасць эпізодаў набліжаецца да 20 тысяч. У Швецыі ж існуе моцная традыцыя, але важна і тое, што сучаснае жыццё пакідае ўсё менней вольнага часу, а слухаць пастаноўку можна адначасова з праменадам ці падчас трэніроўкі ў спартзале, едучы на працу і гэтак далей.

Аддзел радыёдрамы на шведскім радыё сёння мае чатыры студыі. Але за гэтымі чатырма студыямі хаваецца цэлы свет.

– Калі тэатр пачынаецца з вешалкі, – гаворыць Дзмітры Плакс, адкрываючы першыя дзверы, – то радыётэатр пачынаецца з кухні.

Тут, на кухні ў студыі, за кубкам кавы, аўтары чытаюць, абмяркоўваюць сцэнар. Усе знакамітыя рэжысёры і акцёры Швецыі, хваліцца Дзмітры, супрацоўнічалі з радыётэатрам. Вядомы рэжысёр **Інгмар Бергман** таксама піў каву на кухні ў студыі.

– А на памяць нам пакінуў намаляванага на стале чорціка. Любіў Бергман чорцікаў маляваць. Дарэчы, самая апошняя праца ў жыцці генія – якраз у радыётэатры. Супрацоўнічаў з радыётэатрам і адзін з самых знакамітых шведскіх акцёраў – **Эрланд Юсэфсан**.

Ходзячы па студыях радыётэатра, трэба памятаць пра дзве рэчы: нічога не чапаць рукамі і ўважліва глядзець пад ногі.

Рукамі не трэба нічога чапаць, бо сцены ў памяшканнях для гуказапісу зробленыя са спецыяльнага матэрыялу, які не прапускае гук. А тлушч, які ёсць на руках, можа сапсаваць гэту гуканепранікальнасць.

Акрамя таго, калі Дзмітры паказваў пульт, за якім працуюць тэхнікі, а каштуе ён больш за 300 тысяч еўра, у гэтым памяшканні было страшна чхнуць.

**– А калі раптам самі тэхнікі разальюць каву, гэта караецца забойствам? – у жарт пытаюся я.**

– Нашы тэхнікі вельмі любяць сваё працоўнае месца, таму калі вы прыйдзеце да іх з кавай, яны хутчэй вас заб’юць, – адказаў Дзмітры.

І я не ўпэўненая, што ён адказаў жартам, бо вокны радыётэатра выходзяць на старыя могілкі.

– Шведскае радыё знаходзіцца на месцы былога каралеўскага гарнізона. Тут хавалі салдатаў і афіцэраў, – патлумачыў Дзмітры.

А пад ногі на радыё трэба глядзець таму, што вы выпадкова можаце наступіць на “спадара Юхансана”.

“Спадар Юхансан” – гэта два звязаныя вяроўкай бервяны.

– Справа ў тым, што калі гэту канструкцыю кінуць на падлогу, гук будзе, быццам упала цела чалавека. На шведскім радыё многа людзей палегла... – жартуе Дзмітры.

Тут такіх штук, якія служаць для імітацыі розных гукаў, – процьма.

І нейкія плёнкі, якія імітуюць гук сухога лісця, і камяні, і рыдлёўкі, і розныя дзверы, вокны, лесвіцы, машыны... А колькі абутку!

– Тут толькі дзве шафы: для сучаснага мужчынскага і жаночага абутку. Яшчэ шмат чаго знаходзіцца на складах, дзе захоўваюцца рэчы для гістарычных пастановак.

Здараліся падчас працы над радыёспектаклямі і розныя нечаканасці.

Аднойчы ў вялізнай 600-літровай ванне, у якой запісваўся чарговы сюжэт, ледзьве не патануў вядомы шведскі акцёр.

А яшчэ Дзмітры паказаў памяшканне, дзе агучваюць спектаклі пра Беларусь.

Гэтым памяшканнем аказалася... турма з жалезнымі кратамі.

Не так даўно Дзмітры для шведскага слухача пераклаў і паставіў пастаноўку па кнізе Святланы Алексіевіч “Час Second Hand”.



Дзмітры Плакс у студыі шведскага радыё паказвае, якім чынам адбываецца запіс гуку.

Фота Юліі МІЦКЕВІЧ.

– Цяжэй за ўсё было перапрацаваць 700 старонак празаічнага тэксту ў 40 старонак драматургічнага. У гэтай п’есе было задзейнічана 14 прафесійных акцёраў і 150 статыстаў.

У цэлым, прызнаецца Дзмітры, водгукі на гэту працу былі станоўчыя і ў гледачоў, і ў крытыкаў.

## Цікава, калі мае п’есы ставіць іншы чалавек

**– Колькі слухачоў у Швецыі паслухалі “Час Second Hand”?**

– Дакладную лічбу назваць немагчыма, бо фмаўдыторыя вымяраецца прыкладна, наколькі я разумею. Па апошніх падліках, першы канал шведскага радыё, дзе транслявалася пастаноўка, слухае трохі больш за два мільёны чалавек у тыдзень. Дакладней можна падлічыць колькасць праслухоўванняў з электронных платформ – сайта і аплікацыі для тэлефонаў і планшэтаў, а таксама колькасць загрузак. Але я і тут не назаву дакладнай лічбы, бо папросту не памятаю. Калі не памыляюся, спектакль увайшоў у першую пяцёрку за мінулы год, што няблага, калі ўлічваць складанасць, “цяжкасць” матэрыялу і агульную колькасць пастановак, якія штогод выходзяць у эфір. Толькі прэм’ер было каля трох дзесяткаў, а ёсць жа яшчэ і паўторы.

**– Ці ставілі якіх беларускіх аўтараў, акрамя Алексіевіч?**

– Я ставіў спектакль паводле кнігі **Артура Клінава** “Мінск. Горад сонца”. Па маіх перакладах іншымі рэжысёрамі былі пастаўленыя “Нічый Чарнобыль” **Барыса Пятровіча** (перакладчык Ludvig Josephson), а таксама “Спасцігаючы каханне” **Мікалая Халезіна і Наталлі Каляды** (перакладчыца Natalie Ringler). У першых двух выпадках, як і ў выпадку з пастаноўкай па кнізе Святланы Алексіевіч “Час Second Hand”, я таксама рабіў драматургічную апрацоўку арыгінальнага празаічнага тэксту.

**– Больш задавальнення выклікае ставіць свае п’есы?**

– У цэлым – не. Мне цікава, як мой тэкст прачытае іншы чалавек, якія высновы зробіць, што падкрэсліць, што схавае. Я ж і так звычайна здагадваюся, як бы я паставіў тэкст, які напісаў. Ну але, часам, калі, да прыкладу, я толкам не ведаю, што з гэтым тэкстам рабіць і мне трэба яго “пакруціць”, то я стаўлю і ўласныя тэксты. Вось літаральна толькі што вярнуўся з Прагі, дзе якраз ставіў кароткі дыялог, які напісаў пэўны час таму.

**– Якім чынам адбываецца адбор п’ес, якія падыходзяць для радыёпастановак?**

– Аддзел драмы шведскага радыё мае мастацкага кіраўніка. На сённяшні дзень гэта яе праца. Раней існаваў драматургіят, нешта кшталту мастацкага савета, які займаўся рэпертуарам. У розныя перыяды гэта робіцца па-рознаму.

**– Колькі радыёпастановак ставіцца вамі за год?**

– Год на год не прыходзіцца, я працую не толькі як рэжысёр, але і як драматург, і як прадзюсар, але ад адной да чатырох-пяці, недзе так.

**– Колькі чалавек працуе над тэхнічным бокам пастановак?**

– На шведскім радыё няма раздзялення на гукаінжынераў і гукарэжысёраў (саўнддызайнераў), таму тэхнічным бокам займаецца звычайна адзін чалавек. Але залежыць ад праекта, бывае, што над пастаноўкай працуе і два, і тры “тэхнікі”. Акрамя таго, ёсць асістэнт рэжысёра, які адказвае за гукавыя эфекты, рэквізіт, шукае патрэбную музыку і г.д.

**– Ці ёсць у планах паставіць п’есу для тэатра?**

– Калі вы маеце на ўвазе сцэнічны тэатр, то вы ўгадалі. Я нічога не рабіў для сцэны ўжо амаль 15 год, і ў мяне ёсць ідэя паспрабаваць нешта зрабіць. Але пакуль гэта толькі ідэя, ніякіх канкрэтных планаў я, на дадзены момант, не маю.

## Затое мы ставім калыханкі!

Заканчваючы размову з Дзмітрыем Плаксам, я запыталася:

**– Як вы думаеце, чаму ў Беларусі непапулярныя радыёпастаноўкі?**

– Я, дарэчы, не думаю, што аўдыёпастаноўкі непапулярныя і нікому непатрэбныя ў Беларусі. Проста гэта праца, якая патрабуе шмат рэсурсаў, якіх, я падазраю, ні ў беларускага радыё, ні ў каго іншага ў Беларусі сёння няма.

**Алена Давідовіч**, намеснік дырэктара інфармацыйнага і грамадска-палітычнага вяшчання Беларускага радыё перакanала ў тым, што радыёпастаноўкі ў Беларусі жывуць.

– Кожны дзень на канале “Культура” і на “Першым канале” Беларускага радыё ідуць пастаноўкі. Канешне, шмат пастановак трапляюць у эфір з архіва, аднак мы працягваем запісваць новыя. Пераважна запісваем п’есы да пэўнай даты: юбілеяў пісьменнікаў або іншых круглых дат. Цяпер працуем над п’есай сучаснага аўтара да 75-годдзя Перамогі.

Алена Давідовіч прызналася, што запіс спектакля вымагае шмат грошай.

– Канешне, канкрэтную суму вам ніхто неназаве, але ўявіце сабе, колькі можа каштаваць запрашэнне вядучых беларускіх акцёраў, падрыхтоўка тэхнічнага боку спектакля, яго мантаж і гэтак далей. Затое, мы кожны дзень запісваем калыханкі для дзетак. А шведскае радыё так робіць?



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Паехала ў Францыю зарабіць на маёнтак

## А вярнулася ў чужую краіну – Савецкі Саюз

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**У сямейным альбоме Салагубаў фотаздымак 20-гадовай мамы ў 1928 годзе займае асаблівае месца.**

Маладая дзяўчына тут яшчэ толькі пачынае поўнае прыгод жыццё, у якім яе чакаюць паездкі ў Францыю і на Данбас, вайна і сямейнае жыццё з каханым чалавекам.

Пра гісторыю **Веры Захарыч** распавёў яе сын **Аляксандр Салагуб**.

Каб сфатаграфавацца, Вера са старэйшай сястрой **Сімай** з вёскі Кавалі, што ля Ручыцы, паехалі ў Вілейку. Сіма як старэйшая сядзіць. У яе доўгая плісіраваная спадніца, туфелькі і нават наручны гадзіннік. Вера апранутая ў цёмную спадніцу ніжэй за калена, боцікі і белую блузку, падобную да той, што на Сіме. Доўгія косы Веры не замацаваныя стужкай, нібы заплялася яна толькі для фота. Дзяўчаты фатаграфаваліся ў памяшканні з драўлянай падлогай і сцяной, прыкрытай цёмнай посцілкай.

Пазней Сіма выйшла замуж за **Івана Ахрэма** ў вёску Жарсцвянка і пасля засталася ў Савецкім Саюзе. А Вера, як выйшла замуж у 1931 годзе, атрымала дакументы і з'ехала ў Францыю.

Жанчына імкнулася да лепшага жыцця, спазнаўшы цяжкія гады ў дзяцінстве. У сям'і Захарычаў было дзевяць дзяцей. Бацька **Тодар** нідзе не працаваў. Таму трох дачок, у тым ліку Веру, зусім малымі завёз у прытулак у Пецярбург. Там яны прабылі некалькі год. Пасля вучылася ў пачатковай царкоўна-прыходскай праваслаўнай школе, але не скончыла.

Затым дзяўчынка атрымала работу ў вёсцы за Заскавічамі. Служыла ў сваёй цёткі па маці за два пуды жыта. А калі падрасла, уладкавалася на работу да паноў у маёнтак у Ручыцы. Пасля вайны той маёнтак разламалі бальшавікі.

– Разам з імі ламалі і аднавяскоўцы, і нашы сваякі – хацелі, каб паноў не было, – расказвае Аляксандр Салагуб. – Нават у склепе, дзе былі пахаваныя паны, я бачыў у 1948 годзе разбураныя урны для пахавання. Бачыў, што там усё засмечанае. Адна труна цынкавая, другая драўляная – абедзве адкрытыя, без векаў. Пасля ўбачаных нібы вечных склепаў у Францыі тут узнікла адчуванне брыдкага бескультур'я. Як так можа здзекавацца чалавек з чалавека?

Два-тры гады Вера працавала ў паноў **Валовічаў** служанкай. Даглядала дзяцей, гатавала ежу.

### На заробкі ў Францыю

Бацька Аляксандра, таксама **Аляксандр Салагуб**, быў суседам Веры. Маладыя кахалі адно аднаго, але жаніцца не спяшаліся. Разважлівы бацька спачатку хацеў атрымаць пэўнасць з працай, а пасля браць на сябе адказнасць і ствараць сям'ю. Ён паспеў папрацаваць у пана, у Валожыне на пілараме, але грошай атрымліваў няшмат і шукаў лепшае месца.

Заключыў кантракт і паехаў працаваць у Францыю на шахту, а праз год вярнуўся на адпачынак. Прывёз шмат гасцінцаў і за свае грошы справіў вяселле з Верай. Пасля зноў адправіўся ў Францыю, адтуль перадаў дакументы маладой жонцы, каб прыехала да яго. Аплаціў настаўніка для яе, які суправаджаў да Парыжа, таму што яна не ведала французскай мовы. На вакзале ў французскім горадзе Алес сустрэў каханую.

Маладыя жылі ў інтэрнаце, які называўся канціна. У 1935 годзе нарадзіўся наш расказчык Аляксандр, старэйшы сын. Праз два гады – сястра **Зіна**, а ў 1946 годзе – брат **Мікалай**. Вера была гаспадыняй, але працавала. Ездзіла на сезонныя работы на вінаград і клубніцы, а яшчэ мыла адзенне людзям. Салагубы зараблялі грошы, каб вярнуцца і купіць маёнтак.

### Кулінарныя ўспаміны

У Францыі часта пілі віно. А дзецям давалі напой "розэ" – сталовае віно, разбаўленае вадой, каб быў вінны прысмак і ружаваты колер. З сабой у школу бралі віно, пад кранам дадавалі вады і пілі. А ў сераду з такой бутэлечкай розэ хадзілі на праменад. Ніхто ніколі не п'янеў ад яго.

Вера гатавала так, як навучылася ў маёнтку. Абавязковая першая страва – гарохавы, фасолевы, гароднінны супы ці з макаронамі. Другой стравай падавала катлеты, гуляш, адбіўныя, смажаную рыбу, тушанае мяса. З гарніраў звычайна елі бульбу, макарону, крупы.

Абавязкова рабіла салату з лісця салаты, зялёнай ці рэпчатай цыбулі, радыскі, бручкі, агуркоў. У Францыі запраўлялі аліўкавым алеем, а ў Савецкім Саюзе вельмі спадабаўся сланечнікавы свайм пахам. На Данбасе ўсе дзеці елі макуху – спрасаваныя рэшткі семя пасля выцісканнэя з яго алею.

На дэсерт часам рабіла ванільны крэм-бруле, які доўга гатуецца, але надзвычай смачны. Пякла булкі і хрушчы.

### Вайна, трафеі, агітацыя

Першы раз бацькі сабраліся прыехаць дадому ў канцы 1930-х. Але выбухнула вайна, і абясцэніліся заробленыя грошы.

– Да нас немцы прыйшлі восенню 1940, – прыгадвае Аляксандр Аляксандравіч. – Аднойчы вечарам стаялі з бацькамі на ганку, і яны сказалі пагасіць святло. Па дарозе ішлі салдаты. Казалі, гэта "СС". Са школ, дзе яны расквартараваліся, выгналі дзяцей. Даваенную Францыю я не памятаю, а з вайны помню, як у восем год трэба было хадзіць на чыгуначную станцыю, калі немцы разгружалі эшалоны з бульбай, каб схапіць бульбіну. Часам ля рэчкі немцы вывальвалі рэшткі ежы, і мы з мамай хадзілі збіраць ядомае. З выбранай бульбы мама варыла суп ці пякла бліны. Было цяжка, але з размоў з людзьмі, якія жылі ў акупацыі на савецкай тэрыторыі, разумею, што нам было лягчэй.

Хросны бацька сястры Аляксандра па прозвішчы **Гранкоўскі** быў камуністычным актывістам, удзельнічаў у пікетах. Паліцыя яго арыштавала. Той збег да французскага супраціўлення. Пасля перайшоў у Войска Польскае і дайшоў да Германіі. Прыехаў з акардэонам, гасцінцамі, а Аляксандру ў падарунак замест ранца падарыў амерыканскую торбу ад процівагаза і боты з халяўкамі. Колькі было радасці!

Кожны эмігрант у Францыі часта ўспамінаў сваю Радзіму.

– Такіх людзей я бачыў тысячы, – прыгадвае суразмоўца. – Белагвардзейцы – як яны плакалі, калі спявалі песні, асабліва "Где могила моя"!

Ад савецкай амбасады ішла магутная прапаганда, заклікалі ехаць у Саюз. Шмат актывістаў было сярод беларусаў. І вось адправілі два першыя караблі.

– Тата прасіў некаторых з іх, каб яны напісалі пасля прыезду, як там. Але лістоў ніхто не дачакаўся. У 1947 паехалі ў Саюз мы. Многія прасілі, каб і тата напісаў. Калі ён прыехаў і ўбачыў, што тут, то таксама не напісаў нічога. Бацькі не вярнуліся, а прыехалі. Вярнуцца можна на Радзіму, а Савецкі Саюз радзімай ім не быў. Гаварыць пра сваю рэакцыю было нельга: паўсюль трэба было трымаць язык за зубамі. Але розніца паміж жыццём і жабрацтвам была відавочнай. Разам з бацькамі мы проста плакалі. У дарозе бачылі пасляваенную разруху і ў Францыі, і ў Германіі, і ў Польшчы, але тое, што было ў Саюзе, – проста жах.

### Прыехалі не на Радзіму, а ў Савецкі Саюз

У Савецкім Саюзе сям'ю адправілі на Данбас у горад Сталіна, пасля – Данецк. Там жылі 10 год. Бацька зарабляў на пенсію: тое, што ён працаваў 18 год на шахце ў Францыі, Саветы не ўлічвалі.

У 1948 годзе ў Данбасе быў голад. Таму пасля прыезду бацька адправіў усю сям'ю чыгункай да сваякоў у родныя Кавалі, меркаваў, што ў Беларусі лягчэй. Але з Беларусі сваякі вярнулі нас назад: казалі ўцякаць, бо хутка тут будзе вайна з амерыканцамі.

Таму на Данбасе выкручваліся, як маглі. Елі салату з дзьмухаўцоў, лавілі на сметніку пасткай вараб'ёў, елі і галубоў – на смак як звычайная птушка, прыгадвае суразмоўца. У 1950-х ужо можна было купіць хлеб без картачак, толькі ў чарзе трэба было адстаяць.

– Да такога жыцця прывыкаеш і не здзіўляешся брыдоце, – прыгадвае Аляксандр. – А пабачыўшы прыгожае, вельмі цяжка ўспрымаць бруд.

Аляксандр-сын таксама працаваў у шахце. З-за радыкуліту давялося кінуць і пайсці на станказавод у Маладзечне.

У 1960 годзе бацька купіў у Маладзечне дом за заробленыя грошы за 40 тысяч савецкіх рублёў.

Нашаму суразмоўцу паехаць у Францыю дазволілі праз 53 гады пасля прыезду.

Гэты фотаздымак быў для Веры напамінам пра Бацькаўшчыну, калі яна жыла далёка ад роднай вёскі, праз яго расказвала дзецям пра цётку Сіму. Цяпер здымак захоўваецца ва ўнука Веры Салагуб **Аляксандра**, які жыве ў Францыі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота забяспечанае Аляксандрам САЛАГУБАМ.

Вера Фёдараўна Салагуб (Захарыч) стаіць, сястра Сіма сядзіць.

КАЛЯНДАР

### 3 САКАВІКА

**950 гадоў** назад (1067) адбылася бітва на рацэ Нямізе паміж войскамі паўднёва-рускіх князёў Яраславічаў і полацкага князя Усяслава Брачыславіча (Чарадзея).

**75 гадоў** з дня нараджэння (1942) **Уладзіміра Кавалёнка**, лётчыка-касманаўта СССР, двойчы Героя Савецкага Саюза.

### 4 САКАВІКА

**100 гадоў** з часу стварэння (1917) у Мінску першага атрада міліцыі на чале з Міхаілам Фрунзе.

**120 гадоў** з дня нараджэння **Васіля Шаранговіча** (1897 – 1938), савецкага партыйнага дзеяча, удзельніка барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі, члена палітычнай камісіі для перагляду расійска-беларускага слоўніка і новых правілаў правапісу беларускай мовы (1933). Нарадзіўся ў вёсцы Качаны Мядзельскага раёна. У 1910 – 1917 гадах працаваў на чыгунцы ў Маладзечне слесарам, памочнікам машыніста.

**1812 год.** Памёр **Яўхім Храптовіч**, грамадскі і палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, публіцыст, паэт, перакладчык. У 1766 годзе пасля смерці бацькі сярод іншых атрымаў у спадчыну маёнткі Вішнеў і Славенск у Ашмянскім павеце.

### 5 САКАВІКА

**100 гадоў** з пачатку выдання (1917) у Мінску газеты "Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов" (выдавалася да 18 кастрычніка 1917 г.)

### 6 САКАВІКА

**1972 год.** У Мінску заснаванае выдавецтва "Мастацкая літаратура".

### 7 САКАВІКА

**145 гадоў** з дня нараджэння **Васіля Залатарова** (1872 – 1964), беларускага і рускага кампазітара і педагога, народнага артыста Беларусі.

### 8 САКАВІКА

**Дзень жанчын.**

### СЁЛЕТА

**580 гадоў** назад (1437) упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца вёска Хоўхлава (Маладзечанскі раён).

**570 гадоў** назад (1447) упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваюцца Радашкавічы.

**565 гадоў** назад (1452) у мястэчку Свір, цяпер Мядзельскі раён, пабудаваны драўляны касцёл, у 1653 годзе стаў мураваным.

**545 гадоў** назад (1472) упершыню ўпамінаецца пра Касцяневічы (Вілейскі раён).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Дашлі эсэ і выйграй смартфон

**“Рэгіянальная газета” паўтарае конкурс для школьнікаў, падобны на які праводзіла летась.**

Удзельнічаць у ім могуць вучні школ і гімназій рэгіёна, у якім выходзіць “РГ”: Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага, Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага і Маладзечанскага раёнаў.

Вучні могуць дасласць эсэ на скрыню regionnews@rh.by або па пошце на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, “Рэгіянальная газета”. На пісьме зрабіце пазнаку “Конкурс эсэ”.

Эсэ павінны быць напісаныя на беларускай мове на адну з тэм на выбар: “Як бы я правёў тыдзень на бязлюдным востраве”, “Якую рэч трэба вынайсці”, “Як я магу зарабіць мільён”, “Якім павінна быць першае спатканне”, “Дзень, калі я закончу школу” ці “Маё любімае беларускае слова”.

**Паспяшайцеся, апошні дзень прыёму эсэ – 13 сакавіка.**

У лісце разам з эсэ пазначце:
- імя і прозвішча
- клас і школу
- населены пункт
- нумар тэлефона свой ці бацькоў (дамашні ці мабільны)
- імя, імя па бацьку і прозвішча класнага кіраўніка або настаўніка беларускай мовы і літаратуры (рабочы або мабільны)
- некалькі сказаў пра сябе – захапленні, мары, справы ў школе.

Усе дасланыя эсэ пройдуць папярэдні адбор рэдакцыі.

Работы з вытрыманымі патрабаваннямі, якія прайшлі адбор, мы размесцім на нашым сайце rh.by. Сярод іх онлайнгаласаваннем чытачоў адбяром працы, якія пройдуць у фінальны этап. Галасаванне пройдзе ад 16 да 20 сакавіка.

Фінал конкурсу правядзём у рэдакцыі. На ім могуць прысутнічаць удзельнікі. Сярод фіналістаў пераможцу вызначыць латарэя. Дату фіналу абвесцім пазней.

Рэдакцыя можа выключыць работу з конкурсу ў выпадках нядобрасумленнасці ўдзельніка.

Жадаем поспеху!

**Рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”.**

## Раскажы пра свой адпачынак і выйграй фотаапарат

**Летась вы з’ездзілі на мора, у іншую краіну або пакаталіся па Беларусі ці рэгіёне? Вы можаце за гэта яшчэ і падарунак атрымаць!**

Раскажыце, куды і з кім вы ездзілі, чым вас уразіла падарожжа. Што смешнага з вамі адбылося і якія стравы сталі кулінарным адкрыццём? Дайце парады тым, хто сёлета адправіцца ў вандроўку вашым шляхам. Прыкладзіце 2-3 фота, раскажыце, у які бюджэт можна ўкласціся пры такім адпачынку.

**Дасылайце аповеды на скрыню regionnews@rh.by да 13 сакавіка.**

У тэме ліста абавязкова пазначце “Конкурс пра адпачынак”.

У лісце пазначце:
– імя і прозвішча
– населены пункт, у якім жывяце
– мабільны нумар тэлефона
– род заняткаў
– з кім ездзілі
– у якіх месцах пабывалі падчас падарожжа
– у які бюджэт уклаліся і прыкладна як яго размеркавалі.

Рэдакцыя правядзе папярэдні адбор апавяданняў пра адпачынак. Тыя працы, якія мы прымем да конкурсу, будуць размешчаныя на сайце rh.by. Сярод іх галасаваннем чытачы абяруць фіналістаў. Галасаванне будзе працаваць ад 18 да 22 сакавіка.

Затым сярод фіналістаў мы абяром пераможцу праз латарэю. Удзельнікі конкурсу змогуць прысутнічаць на розыгрышы.

Пераможца атрымае фотаапарат, які спатрэбіцца ў далейшых падарожжах. Ён не толькі зафіксуе важныя моманты, але і адразу раздрукуе фота.

Рэдакцыя можа выключыць удзельніка з конкурсу ў выпадках яго нядобрасумленнасці.

**Рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”.**

ТЭМА НУМАРА

# Гэтыя маленькія “вошкі” праз два месяцы ўпрыгожаць цэлы горад

МАЛАДЗЕЧНА

**Супрацоўнікі зялёнапаркавай гаспадаркі, як ніхто іншы, адчуваюць хуткі прыход вясны.**



Юля Субач працуе ў зялёнапаркавай гаспадарцы чацверты год. Яна выпускніца Валожынскага ліцэя па спецыяльнасці агароднік.

Таму што, пакуль паўсюль толькі сыходзіць снег, на іх працоўных месцах ужо прабіваюцца першыя ўсходы тых кветак, якія праз пару месяцаў упрыгожаць вуліцы горада.

Некаторыя расліны толькі высоўваюцца з зямлі, іншыя супрацоўніцы цяпліцы **Ала Жаўняровіч**, **Юлія Субач**, **Валянціна Сянько** ўжо рассаджваюць.

– Прыйдзіце праз месяц, вы нашы цяпліцы не пазнаеце, – адказваюць мне, – і з нашых “вошак”, якія ледзьведзьве прабіваюцца з зямлі, заквітнее цэлы горад.

Пакуль астатнія займаюцца перасадкай віёл, на экскурсію па цяпліцах мы выправіліся са старшым майстрам **Анастасіяй Гафуравай**.

– Гэта першыя кветкі, якія з’явяцца на клумбах горада, калі знікне небяспека замаразкаў. А значыць, недзе ў канцы красавіка.

А вось на 8 сакавіка маладзечанкі застануцца без цюльпанаў ад зялёнапаркавай гаспадаркі.

– Нас падвялі пастаўшчыкі, і сёлета мы не паспелі закупіць цыбуліны і вырасціць кветкі. Затое мы пры любых умовах імкнёмся захаваць грады з нашымі каламі. Маладзечанцы пра гэта ведаюць, і попыт на гэтыя белыя, прыгожыя кветкі заўсёды высокі.

Раней, расказваюць супрацоўніцы цяпліцы, якія маюць за плячыма 20-гадовы працоўны стаж, у горадзе амаль не было клумбаў, таму зялёнапаркавая гаспадарка вырошчвала і цюльпаны, і ружы, і гваздзікі.

– Цяпер жа клумбаў настолькі многа, што вельмі дорага вырошчваць нейкія пераборлівыя кветкі ці тыя, якія дорага каштуюць. Да таго ж, усё лета даводзіцца адсаджваць кветкі, якія засохлі, або тыя, якія скралі з клумбаў.

Таму гаспадарка перакваліфікавалася і цяпер пераважна вырошчвае расаду.

Сёлета ў горадзе зацвіце бягонія, сальвія, нагаткі, агератум, тагецес, петунія, сурфінія, цынерарыя, цынія.

Зялёнапаркавая гаспадарка да майскіх святаў плануе высадзіць каля 40 тысяч кветак адной толькі віёлы. Усяго ў цяпліцах вырошчваецца 500 тысяч адзінак расады.

– Плошча нашых цяпліц займае 2260 квадратных метраў. Тут растуць не толькі вулічныя, але і хатнія кветкі, якія таксама можна ў нас купляць. Ёсць у нас і гадавальнік, дзе мы вырошчваем саджанцы дрэў, якія потым будуць азеляняць горад: клён, ясень, розныя кусты. У маі будзем прадаваць і расаду памідораў, агуркоў, капусты.



Сантэхнік Валер Каракін дапамагае жанчынам у перасадцы кветак тым, што гатовыя гаршкі разносіць па цяпліцы.

Мы вырошчваем сярэдняспелыя гатункі памідораў “Ляна” “Загадка”, “Салярыс”, капуста ў нас ёсць і ранняспелая, і познаспелая, якую людзі бяруць на квашанне.

Падзяліліся работніцы цяпліц і сакрэтам, што эксперыментаваць з новымі раслінамі, бывае, не дазваляюць прыродныя ўмовы ў Маладзечне.

– Канешне, нам хочацца нечага новага, асабліва летам. Але мы хочам, а прырода гэта не прымае. Вось, напрыклад, шосты ці 10 мікрараён. Вам здаецца, што там усё прыгожа, усе цвіце, а не. Там такія вятры дзьмуць, што многія расліны проста не выжываюць. А вось самая ўрадлівая зямля ў гарадскім парку.



Ідзе пікіроўка віёлы.

Нягледзячы на цяжкую фізічную працу, супрацоўніцы зялёнапаркавай гаспадаркі любяць сваю работу. І тысячны парастак той самай віёлы гэтак жа беражліва садзяць у асобны гаршчок, як і першы.

**Наталля ТУР.**

**Больш фота на сайце Rh.by**



Вясны жыхары Шнуроў чакаюць з асцярогай. Фота Пятра ЦЫГАНКА.

# Жыхары Шнуроў тонуць на ўласнай вуліцы

## Ці зробяць тут добрую дарогу

МАЛАДЗЕЧНА

– Прывітанне! Тану разам з машынай на сваёй роднай вуліцы! Напэўна, зараз буду выратавальнікам тэлефанаваць, – падзяліўся з намі набалелай праблемай жыхар вёскі Шнуры Пётр Цыганок.

Хаця праблема гэта не толькі аднаго Пятра. Яна датычыцца ўсіх жыхароў вёскі Шнуры. Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў тут няма добрай дарогі.

### Жыхары Шнуроў: вясны чакаем з асцярогай

Па словах Пятра, жыхары вёскі даўно спрабуюць вырашыць сваю праблему. Яны тэлефанавалі ў розныя інстанцыі, збіралі подпісы, пісалі калектыўныя пісьмы і ў маладзечанскі райвыканкам, і ў "Камунальнік". Аднак ні афіцыйнага адказу, ні, тым больш, вынікаў яны не атрымалі.

Спрабавалі неяк самастойна паправіць дарогу. Сваімі сіламі прывозілі ў вёску будаўнічае смецце, засыпалі ім дарогу. Аднак праблема вырашалася ненадоўга.

Кожнай вясны жыхары Шнуроў чакаюць з асцярогай. Бо снежная і марозная зіма на пэўны час вырашае праблемы з дарогай. Снег падае, уездзваецца, замярзае – і тады можна ездзіць.

Але кожная вясна – гэта сапраўднае стыхійнае бедства. Бо вясной, а таксама летам і восенню ў час моцных дажджоў, вуліца ў літаральным сэнсе "плыве".

Калі растае снег, вялізныя лужы, гразь і глыбокія ямы не толькі на дарозе. Шмат вады адтуль ліецца ў двары. Вада даходзіць да ганкаў. У гаспадароў па дварах плаваюць дровы і брыкет.

– Мы не просім рабіць праз вуліцу асфальт, – агучвае Пётр думкі жыхароў усёй вёскі. – Няхай бы хаця б добра падсыпалі тыя 250-300 метраў дарогі.

Раз на тыдзень прыязджае машына, якая забірае смецце. Яна робіць вялікія каляіны. Тады не толькі праехаць, а нават і прайсці цяжка, скардзяцца суседзі.

Кожную вясну Пётр сам "патанае" на машыне ў адной з ям на дарозе. Страшна падумаць, кажа мужчына, калі праз такую дарогу да кагосьці з жыхароў не даедзе "хуткая дапамога".

### УП "Камунальнік": што можам, тое робім

Ні будаўніцтва новай дарогі, ні рамонт старой праз вёску Шнуры не плануюць, патлумачыла начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела УП "Камунальнік" **Таццяна Паляковіч**.

У бок вёскі будуецца горад. Шматпавярхоўкі літаральна "наступаюць" на прыватны сектар у Шнурах. Хутчэй за ўсё, будзе нейкая агульная дарога. Але праз вёску – дакладна не.

Па словах Таццяны Паляковіч, па магчымасці дарогу, пра якую вядзецца гаворка, рамантуюць. На ёй засыпаюць ямы, грэйдзіруюць. Гэта значыць, раўняюць дарогу спецыяльнай машынай.

На больш істотны рамонт грошы не выдзяляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Старадаўні парк і возера сядзібы Агінскага пачнуць аднаўляць вясной

СМАРГОНЬ

Рэканструкцыю старадаўняга парку і возера маёнтка Агінскага Залессе пачнуць вясной. Адпаведнае даручэнне на аператыўнай нарадзе ў Гродзенскім аблвыканкаме даў старшыня **Уладзімір Краўцоў.**

У рэгіёне прапрацоўвалі крыніцы фінансавання для аднаўлення парку і возера ў Залессі, якія з'яўляюцца помнікамі гісторыка-культурнай спадчыны. Як заявіў старшыня, дасягнутая дамоўленасць з Банкам развіцця Беларусі аб фінансаванні часткі работ. Уладзімір Краўцоў даручыў у бліжэйшыя тэрміны прыступіць да будаўнічых прац. Першымі на прылеглай да сядзібы тэрыторыі з'явяцца меліяратары, гатовая неабходная для гэтага праектная дакументацыя. Чакаецца, што яны пачнуць работы па ачыстцы возера ўжо ў сакавіку ці красавіку.

Падрыхтаваныя дакументы для распрацоўкі поўнай праектнай дакументацыі па рэканструкцыі парку і возера. Навуковым кіраўніком з'яўляецца архітэктар **Людміла Іванова** – аўтар праекта рэстаўрацыі самой сядзібы.

Па словах начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама **Таццяны Ражавай**, вызначылі асноўныя кірункі рэканструкцыі. Акрамя меліярацыйных работ, ачысткі возера, плануюць адрамантаваць два гідратэхнічныя збудаванні. Рэстаўруюць у палацавым стылі металічны і бетонны масткі над дамбамі.

Ёсць ідэя па адраджэнні яшчэ аднаго страчанага моста да астраўка ў цэнтры возера. Гэты масток і дзве дамы, якія шпацыруюць па ім, намаляваныя на гравюры Леанарда Ходзькі 1822 года.

У Залессі хочуць адрадзіць і абодва паркі: англійскі пейзажны і рэгулярны французскі. У першым адновяць алею праз фруктовы сад, дарожкі, малыя архітэктурныя формы, лавы і масткі. Таксама разаб'юць кветнікі з кустамі і кветкамі.

Міхал Клеафас любіў кветкі і, убачыўшы нейкую новую расліну падчас сваіх падарожжаў, прасіў садоўніка пасадзіць такую ж ва ўласным садзе.

Рэгулярны французскі парк быў непарыўна звязаны з палацам і знаходзіўся па дарозе да яго, ствараючы эфектную візуальную структуру. Такім ён паўстане перад наведнікамі зноў у форме прамавугольніка з геаметрычнымі ўзорамі з газонаў, кустоў і невысокіх дрэў.

Сядзіба ў Залессі належала Агінскім з 18 стагоддзя. Францішак Ксаверы Агінскі падарыў яе ў 1802 годзе пляменніку Міхалу Клеафасу. З новым гаспадаром маёнтак атрымаў і зусім новае знешняе аблічча. У сядзібе, пабудаванай па сваім гусце, кампазітар разам з жонкай і дзецьмі правёў самыя плённыя гады жыцця. Сядзіба Залессе адрэстаўраваная ў 2014 годзе. Музей-сядзіба стаў папулярным турыстычным аб'ектам.

**Паводле БелТА.**

# Талакой ушануем памяць загінулых у вайну

ВІЛЕЙКА

**Шаноўныя сябры! На Вілейшчыне вельмі шмат вёсак з трагічным гістарычным мінулым. Насельніцтва гэтых вёсак намагаецца захаваць пра яго памяць.**

Але старажылаў і сведкаў тых ваенных часоў застаецца ўсё менш і менш. У шматлікіх вёсачках іх ужо зусім не засталося.

Апошнім часам грамадства і мясцовая ўлада прыкладаюць нямала намаганняў, каб захаваць гісторыю для нашчадкаў і ўшанаваць памяць загінулых землякоў. Вяртаюць з забыцця імёны загінулых, адраджаюць помнікі і магілы, усталёўваюць мемарыяльныя дошкі.

Вось і сёлета ёсць намер усталяваць памятныя мемарыяльныя дошкі па загінулых жыхарах у вёсках Навасёлкі і Пляшчаны Хаценчыцкага сельсавета. Сабрана шмат звестак пра пакутніцкую смерць жыхароў гэтых вёсак. Пра гэта неўзабаве з'явіцца і ў друку. Пра ўсё таксама будзе абнародавацца падчас мерапрыемства па ўшанаванні.

Я звяртаюся да вас, сябры, за пасільнай дапамогай у ажыццяўленні задуманага. Можа, у кагосьці ёсць магчымасць дапамагчы. Для ажыццяўлення праекта трэба:

- гранітныя пліты памерам прыкладна 0,6х0,4 метра і 1,0х0,5 метра,
- нанесці прозвішчы загінулых,
- абрамленне пліт.

Завяршыць работы запланавана да мая.

Шаноўныя сябры, часу застаецца няшмат. Будзем вельмі ўсім удзячныя за ўдзел і неабыякавасць да гісторыі сваёй краіны і яе грамадзян, якія аддалі свае жыцці за сённяшняе мірнае неба над намі! За магчымасць працаваць і зарабляць грошы, каб жыць у прыстойных дамах, а не ў зямлянках!

Калі прыкладзём па кропельцы намаганняў, зробім вельмі добрую справу. І ў вясну будзе нагода нам усім як сябрам сабрацца на адкрыццё помнікаў.

Тэлефоны для сувязі з арганізатарам:
**(8029) 709-85-56,**
**(8025) 605-28-85.**

**З павагай да ўсіх, Алесь РАТКЕВІЧ, чытач "РГ".**

## "Карапет, карапет – прыйдзем танчыць у абед!"

У Маладзечне ўжо другі год існуе этнаграфічны клуб KOLA.

Асноўнай мэтай яго з'яўляецца вывучэнне і папулярызацыя беларускай культуры канца 19 – пачатку 20 стагоддзя ў межах тэрыторыі сучаснага Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў. У склад клуба ўваходзіць пераважна моладзь Маладзечна, але некаторыя ўдзельнікі жывуць і ў Мінску.

KOLA ўзнаўляе народны строі, вывучае беларускія традыцыйныя танцы і спевы, арганізуе святы і абрады, праводзіць майстар-класы па народных рамёствах, ладзіць танцавальныя вечарыны (вячоркі, дударскія вечарыны).

Клуб арганізаваны на базе ДУК "Цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёна".

Падрабязна з дзейнасцю клуба можна пазнаёміцца на сайце: kolaclub.blogspot.com.by.

А гэтай зімой этнаграфічны клуб KOLA выйшаў у лік пераможцаў на "Конкурсе ідэй: Маладзечна", што ладзіла грамадска-культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі" з праектам "Танцавальны тур па грамадскіх месцах горада Маладзечна".

Для рэалізацыі гэтага праекта KOLA звяртаецца да ўсіх арганізацый, устаноў адукацыі, фірмаў, прадпрыемстваў – працоўных калектываў Маладзечна з прапановай зладзіць на дабрачынных умовах танцавальную вечарыну ў аптымальны для вас час.

Вечарына прадугледжвае актыўнае знаёмства з шасцю беларускімі традыцыйнымі танцамі: лявоніха, карапет, млын, верабей, полька-бабачка, грачанікі, каханачка і інш.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне (8029)-**53-53-105.**

**Вольга ТРУБАЧ, кіраўнік клуба.**

## "Забудова-Буд" прайграла "Смаргоні"

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

У Чысці 26 лютага мясцовая "Забудова-Буд" прымала ФК "Смаргонь". Для смаргонцаў гэта быў першы спарынг у падрыхтоўцы да новага сезона.

– З першых хвілін гаспадары завалодалі ініцыятывай, больш кантралявалі мяч. Ужо на 10-й хвіліне пасля навесу ў штрафную **Аляксандр Працкевіч** ударам галавой адправіў мяч у сетку. "Забудова-Буд" павяла 1:0, – паведаміў прэс-аташэ ФК "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч**.

На 34-й хвіліне пасля падачы вуглавога гулец "Смаргоні" **Аляксей Клямяціч** з лініі варатарскай галавой аднавіў раўнавагу 1:1.

У другой палове матча смаргонцы пачалі часцей ствараць моманты ля варот гаспадароў, але адзначыліся аднойчы. На 76-й хвіліне да канца матча гол забіў **Павел Дзямідчык**. "Смаргонь" перамагла 2:1.

## Ашмянскім атлетам не было роўных

АШМЯНЫ

Першынство па экіпіровачным паўэрліфтынгу адбылося ў Мінску.

Больш за дзесяць гадоў каманда ашмянскіх атлетаў трымае пальму першынства ў рэспубліцы. Юнакі ва ўпартай барацьбе занялі першае месца, апярэдзіўшы свае саспернікаў са спартыўнага клуба "Залатая трысь" з Гомеля. На трэцюю прыступку п'едэстала падняліся атлеты ДЮСШ-1 з Рагачова.

Сярэбраны прызёр першынства Еўропы 2016 года **Дзмітры Кіркоўскі** заняў першае месца ў вагавой катэгорыі да 66 кілаграмаў і стаў абсалютным чэмпіёнам рэспублікі па сістэме Вілкса. Яго таварыш па камандзе **Раман Малярэнка** у гэтай вагавой катэгорыі быў трэцім.

У вазе да 52 кг сярэбраны медаль заваяваў **Уладзіслаў Трусевіч**. Золата ашмянскай камандзе прынеслі **Аляксандр Яцкевіч** у вазе да 59 кг і **Сяргей Цыбульскі**, які выступае ў вагавой катэгорыі да 74 кг. Добры вынік паказалі **Андрэй Загурскі** і **Дзяніс Аніхоўскі**. Яны занялі трэцяе і другое месцы адпаведна.

Дзяўчаты таксама занялі першае агульнакаманднае месца. Другімі сталі спартсмены ДЮСШ-1 з Рагачова, трэцімі – каманда ДЮШАР са Смалявічаў. Сур'ёзны ўнёсак у перамогу каманды зрабілі залатыя медалісты: **Аліна Загорская** (вага да 43 кг), **Надзея Цярэшка** (да 52 кг), **Ілона Антоненка** (да 63 кг).

Сярэбраныя прызёры **Тэрэза Галамбоўская** (вага да 47 кг) і **Лізавета Баркоўская** (да 52 кг).

У сярэдзіне сакавіка наймацнейшыя ашмянскія спартсмены ў складзе зборнай каманды Рэспублікі Беларусь з'язджаюць на чэмпіянат Еўропы па класічным паўэрліфтынгу, які пройдзе ў Даніі.

## У "Смаргоні" – новы трэнер

СМАРГОНЬ

Кантракт у **Мікалая Рындзюка**, які ўзначальваў ФК "Смаргонь" апошнія два сезоны, скончыўся 19 лютага. Па ўзаемнай згодзе, кіраўніцтва клуба і экс-галоўны трэнер вырашылі яго не працягваць, паведамляе афіцыйны сайт клуба. Будучыня Мікалая Рындзюка ў ФК "Смаргонь" будзе залежаць ад рашэння суда і дысцыплінарнага камітэта АБФФ.

Ад 20 лютага ў "Смаргоні" новы галоўны трэнер – **Аляксей Дварэцкі**.

Далейшы разгляд справы Рындзюка ў судзе адкладзены на нявызначаны тэрмін, паведамляе by.tribuna.com

## 20 галоў на дваіх

СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ

У Смаргоні 25 лютага прайшоў матч у адказ у супрацьстаянні паміж мясцовымі "Мядзведзямі" і "Меліяратарам" з Аўстраўца. Смаргонцы і на гэты раз былі мацнейшымі: выйгралі ў астраўчан з лікам 15:5. Восем галоў за "Мядзведзяў" забіў **Юры Марціновіч**.

Астраўчане пазмагаюцца за 7-8 месцы з "Беллактам". А "Мядзведзі" аспрэчаць пятаешостае месцы з "Цэментнікам".

## Пачаўся чэмпіянат раёна па міні-футболе

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле распачаўся чэмпіянат Мядзельскага раёна па міні-футболе. Удзельнічаюць восем камандаў.

Прайшлі два туры. У апошнім 25 лютага былі такія вынікі, паведамляе суполка "ЗЛЖ Мядзельшчыны" "Укантакце": "РКП Нарач" - "Юнацтва" – 7:2, "Спадарожнік" - "Сілавік" – 3:1, СЛВПТВ – "Юніян" – 6:2, "ІП Мядзел" - аддзел адукацыі, спорту і турызму – 6:4.

**Аддзел інфармацыі.**

# Плэй-оф у Маладзечне:

## гуляем з "Шахцёрам" і спадзяёмся на перамогу

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні адных з самых важных і прынцыповых матчаў сезона мы сустрэліся з прэс-сакратаром хакейнага клуба "Дынама-Маладзечна" Максімам Стаянам і запыталіся ў яго, чаму балельшчыкам важна не прапусціць матч, а быць побач з камандай у такі адказны момант?**


Фота Аляксандра ЯРОМЕНКІ.

"Дынама-Маладзечна" абяцае, што гледачам на трыбунах будзе горача.

Ужо трэці год запар каманда "Дынама-Маладзечна"" выступае ў чэмпіянаце Беларусі па хакеі.

У гэтым сезоне "зубры" па выніках рэгулярнага чэмпіянату занялі пятае месца і атрымалі ў сапернікі па чвэрцьфінале салігорскі "Шахцёр". Каманду вельмі знакамітую і дасведчаную.

У 2015 годзе "гарнякі" станавіліся чэмпіёнамі краіны, двойчы заваёўвалі сярэбраныя медалі (2010 і 2016 гг.), а ў 2013 годзе прымералі "бронзу".

У "Дынама-Маладзечна" поспехі пакуль больш сціплыя. На дадзены момант лепшым вынікам за тры гады існавання калектыву можна лічыць выхад у фінал Кубка Беларусі ў 2015 годзе. Галоўны трэнер маладзечанцаў **Дзмітры Краўчанка** сёлета адзначыць 20-гадовы юбілей сваёй трэнерскай дзейнасці. Магчыма, хлопцы паднясуць свайму настаўніку сюрпрыз у выглядзе чэмпіёнства?

– У гэтым сезоне каманда істотна ўзмацнілася, – кажа Максім, – досвед выступлення ў КХЛ. Да прыкладу, нападаючы **Дзмітры Амбражэйчык** адносна нядаўна быў прызнаны ў КХЛ лепшым навічком тыдня. Не трэба забывацца, што мы – фарм-клуб "Дынама-Мінск", пагэтаму першачарговая задача нашага калектыву – гэта падрыхтоўка маладых гульцоў для галоўнай каманды. Вядома, ніхто не адмовіцца заваяваць медалі чэмпіянату Беларусі ці Кубка краіны, але ўсё ж гэтыя мэты, хутчэй, на другім плане.

**– Калі казаць пра шанцы "Дынама-Маладзечна" на чэмпіёнства ці хаця б праходжання каманды ў паўфінал. Наколькі гэтыя шанцы рэальныя?**

– Хакей – гэта, бадай, адзін з самых непрадказальных відаў спорту. Таму ў нашай чвэрцьфінальнай серыі з "Шахцёрам" магчымыя розныя зыходы. У гэтым сезоне і "Дынама-Маладзечна", і "Шахцёр" – каманды прыкладна аднолькавыя па сіле. Зараз дынамаўцы гуляюць дома. А гэта значыць, што родныя трыбуны будуць на баку нашых хлопцаў. Карыстаючыся выпадкам, запрашаю ўсіх жыхароў горада Маладзечна і Маладзечанскага раёна наведаць нашы гульні.

**– Якая-небудзь забаўляльная праграма заўзятараў чакае?**

– Так, вядома. У нас на кожным дамашнім матчы вельмі насычаная забаўляльная праграма. Заўзятары могуць паўдзельнічаць у розных конкурсах і атрымаць за гэта прызы з сімволікай клуба. Любы ахвотны можа абсалютна бясплатна нанесці сабе аквагрым, сфатаграфавацца ў спецыяльнай фотазоне. Учора на матчы выступаў ваенны аркестр.

Другі дамашні матч "Дынама-Маладзечна" правядзе 2 сакавіка.

**Наталля ТУР.**

## Заўзятары выбралі сімвалічную зборную "Смаргоні"

СМАРГОНЬ

Да 30-годдзя футбольнага клуба "Смаргонь" заўзятары выбіраюць сімвалічную зборную за ўсю гісторыі клуба. Для гэтага наладзілі галасаванне ў афіцыйнай групе "Укантакце".

Найперш выбіралі варатара. Больш за 70% апытаных выказаліся за **Радзівона Жука**, які бараніў вароты "Смаргоні" ад 2005 да 2009 і ад 2013 да 2015 года.

Потым заўзятары выбіралі лепшых крайніх абаронцаў за ўсю гісторыю клуба.

– Ужо з першых гадзін апытання ў абедзвюх намінацыях вызначыліся лідары, – паведаміў прэс-аташэ ФК "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч**. – **Уладзіслаў Дукса** і **Валеры Курак** з'яўляюцца безумоўнымі лідарамі па колькасці згуляных матчаў за ФК "Смаргонь" у чэмпіянатах і кубках Беларусі за ўсю гісторыю. Яны правялі 342 і 190 матчаў адпаведна. У выніку і занялі свае пазіцыі ў сімвалічнай зборнай клуба ўсіх часоў.

Лепшымі цэнтральнымі абаронцамі заўзятары назвалі **Генадзя Мардаса** і **Аляксандра Юркевіча**.

Два тыдні выбіралі лепшых паўабаронцаў. У намінацыі "левы паўабаронца" прэтэндэнты ішлі амаль нароўні. Усё ж больш галасоў сабраў **Дзмітры Трындзюк**. Ён гуляў за "Смаргонь" ад 2003 да 2008 года.

**Максіма Яблонскага** абралі лепшым правым паўабаронцам у гісторыі клуба. Ён набраў больш за 60% галасоў і апярэдзіў бліжэйшага пераследніка больш чым на 40%.

У намінацыі "Лепшы апорны паўабаронца" перамог **Аляксей Дварэцкі**. Ён гуляў за "Смаргонь" ад 2007 да 2013 года, а пасля ўвайшоў у трэнерскі штаб клуба. Лепшым атакуючым паўабаронцам, па меркаванні заўзятараў, стаў **Дзмітры Лебедзеў**. Ён выступаў у складзе "Смаргоні" ад 2007 да 2009 года, дадаў Уладзімір Амбрасевіч.

На гэтым тыдні завяршылася галасаванне за лепшых нападаючых. Імі сталі **Сяргей Крот** і **Дзмітры Вярстак**.

**Аддзел інфармацыі.**



Калаж Вадзіма ЕРМАКА.

Лепшыя паўабаронцы "Смаргоні".



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Гэтым маёнткам у 16 стагоддзі валодаў Рыгор Осцік, якога пакаралі смерцю за дзяржаўную здраду, а маёнтак вярнулі ў каралеўскую скарбонку.
5. Якая справа, такая й …
8. Старажытныя рымляне ў якасці адзення насілі туніку. Якая прычына часам вымушала іх насіць некалькі тунік?
9. Штогод нарвежцы дзякуюць англічанам за дапамогу ў Другой сусветнай вайне. За гэта яны прывозяць падарунак, які пасля выстаўляюць на Трафальгарскай плошчы ў Лондане. Што гэта?
10. Сімвал Капенгагена, які паўстае ў выглядзе бронзавай скульптуры. Гісторыя помніка звязаная са знакамітай казкай Андэрсэна.
11. Якую страву соляць тройчы?
12. Стародаўняя кніга вялікага фармату.
15. Эканомная мучная страва, паходжанне назвы якой ідзе ад слова "малоць".
16. Мінерал, што баіцца вады, але і з вады нараджаецца.
18. Па чым ходзіць Бай у чырвоным каптане?
20. Аўтар казкі "Чортаў скарб".
23. Знак, які абазначае гук пэўнай вышыні.
25. Як па-нямецку будзе "Дрэва, што ўпала".
26. Пачатак спаборніцтва.
27. Падстаўка для мікраскопа ці фотаапарата.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Запісаць штосьці ці адзначыць у памяці.
3. Слой, які пакрывае жалеза з-за карозіі.
4. Першыя авіятары абавязкова насілі гэту дэталь убору, хаця форма яго не патрабавала.
6. У яго "працоўнай кніжцы" 12 подзвігаў.
7. Жывёла на гербе Смаргоні.
12. Шакуюча ружовае адценне.
13. Надразанне дрэў для атрымання жывіцы, соку.
14. Прозвішча аўтара цытаты: "Цяжка забыць боль, але яшчэ цяжэй прыгадаць радасць. Шчасце на пакідае памятных шрамаў".
17. Выбрацца з яго Тэзею дапамагла нітка Арыядны.
19. Кароткі раменны плецены бізун.
21. Супольнасць студэнтаў і выкладчыкаў у сярэднявеччы.
22. Той, хто бяздумна, рассеяна прыглядаецца да чаго-небудзь.
24. Адзін круг танца.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ №8.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Аспірын. 4. Ашукаць. 7. Пшаніца. 9. Антарктыда. 15. Рогат. 18. Літара. 19. Вытворчасць. 20. Ацёл. 24. Ураўненне. 26. Батлейка. 29. Неруш. 31. Кітай. 32. Кашпо.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Бенефіс. 3. Бронза. 5. Кульша. 6. Грамата. 8. Ланцуг. 10. Ньютан. 11. Базальт. 12. Лядок. 13. Барханы. 14. Лібрэта. 16. Унітаз. 17. Кумірня. 21. Туман. 22. Каракас. 23. Оскар. 25. Адчужэнне. 27. Слон. 28. Цяплушка. 30. Розніца.

## ГАРАСКОП 3-9 САКАВІКА



**АВЕН.** Вы можаце сутыкнуцца з чалавекам, якому ад вас патрэбная нейкая незвычайная паслуга. Калі ёсць магчымасць лёгка для сябе адмовіць яму ў просьбе, лепш зрабіце гэта, інакш увяжацеся ў складаную сітуацыю, ды яшчэ і ў грашах страціце.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам цяпер супрацьпаказаная любая дзейнасць, бо рызыкуеце прыняць вельмі шмат няправільных рашэнняў. Дазвольце падзеям развівацца самім па сабе і не старайцеся плысці супраць цячэння. Так вы зэканоміце ўласныя сілы і зможаце пазбегнуць шмат якіх няўдач, а вынік такога некантралюемага бяздзеяння вас прыемна здзівіць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Магчымыя сустрэчы з людзьмі, якія моцна паўплываюць на ваш светапогляд і дапамогуць інакш паглядзець на прывычныя жыццёвыя сітуацыі.



**РАК.** Ва ўсім прытрымлівайцеся вызначанай меры. Не спрабуйце ўсюды паспець. Калі запатрабуецца выканаць шмат спраў, адшукайце свае ўнутраныя рэзервы, якія ў вас, безумоўна, ёсць. Калі пераключыцеся на рабочы лад, тады заўважыце, як адкрыецца другое дыханне і з'явяцца сілы.



**ЛЕЎ.** Для вас дні не такія і простыя, шмат нявырашаных пытанняў, розных негатыўных аспектаў, якія трэба вырашыць тэрмінова. У вас ёсць два спосабы: ці кінуць усё, ці сабраць сілы, дзейнічаць дакладна, у адпаведнасці з планам і распарадкам, і разблытаць нітку за ніткай увесь клубок.



**ДЗЕВА.** З самага панядзелка вам будзе жыццё ўсміхацца. Каб не "спатыкнуцца" ў фінансавых пытаннях, не губляйце пільнасці.



**ШАЛІ.** Вас чакаюць цесныя і вельмі плённыя зносіны з чалавекам, які не толькі спрытна вырашае чужыя праблемы, але і заражае вас пазітыўнай энергіяй. Гэта ўзаемадзеянне многаму вас навучыць і падорыць некалькі цікавых ідэй, рэалізаваўшы якія вы штосьці зменіце ў сваім жыцці.



**СКАРПІЁН.** Вы шмат працуеце. І хоць цяпер ад вашай дзейнасці няма бачных вынікаў, вы можаце быць упэўненыя ў тым, што прасоўваецеся ў накірунку сваёй мары, што будучае хутка ўжо пакажацца з-за гарызонту, і вы зможаце ад гэтага атрымаць асалоду.



**СТРАЛЕЦ.** Калі вы хочаце развівацца далей (якой бы сферы вашага жыцця гэта не тычылася), то трэба набрацца ў сабе сіл і смеласці, каб адмовіцца ад таго, што вам перашкаджае, што аджыло сваё. Верагодна, прыйдзецца скінуць груз, да якога вы ўжо так прывыклі, што расстацца будзе нялёгка.



**КАЗЯРОГ.** Вам, хутчэй за ўсё, удасца ўзяць пад кантроль нейкую даволі складаную сітуацыю. Гэта дадасць вам павагі навакольных і дапаможа пазбегнуць непажаданай для вас падзеі. Акрамя таго, вы ўзновіце запас сіл і ўнутранай пазітыўнай энергіі.



**ВАДАЛЕЙ.** Бярыце ўсё ў свае рукі. У вас ёсць унікальная магчымасць пачаць новую справу ці новыя адносіны, змяніць сваё жыццё ці актыўна прасунуцца наперад па ўжо намечаным раней шляху. Поспех цалкам залежыць ад вас саміх. Калі вы вырашыце нічога не рабіць і пакінуць усё так як ёсць, то будзе менавіта так. Цяпер вы не залежыце ад уплыву лёсу і іншых фактараў і здольныя самі для сябе вызначаць свой шлях.



**РЫБЫ.** Плануйце на гэтыя дні толькі справы, якія звязаныя з матэрыяльнымі пытаннямі (пакупкі, грашовыя ўкладанні, работа). А вось ад сустрэч з сябрамі трэба адмовіцца, і ўвогуле ад мерапрыемстваў, якія будуць выклікаць мора эмоцый.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | 8 | | | | | |
| 7 | 5 | | 6 | | 4 | | | |
| 6 | | 4 | | 3 | | 7 | | 5 |
| | | | | | | | 7 | |
| 3 | 2 | 1 | | | | 9 | 6 | 8 |
| | 6 | | | | | | | |
| 8 | | 6 | | 2 | | 1 | | 3 |
| | | | 1 | | 3 | | 8 | 6 |
| | | | | | 8 | 2 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 3 | 2 | 8 | 5 | 7 | 6 | 4 | 9 |
| 7 | 5 | 9 | 6 | 1 | 4 | 8 | 3 | 2 |
| 6 | 8 | 4 | 9 | 3 | 2 | 7 | 1 | 5 |
| 5 | 4 | 8 | 2 | 9 | 6 | 3 | 7 | 1 |
| 3 | 2 | 1 | 7 | 4 | 5 | 9 | 6 | 8 |
| 9 | 6 | 7 | 3 | 8 | 1 | 5 | 2 | 4 |
| 8 | 7 | 6 | 4 | 2 | 9 | 1 | 5 | 3 |
| 2 | 9 | 5 | 1 | 7 | 3 | 4 | 8 | 6 |
| 4 | 1 | 3 | 5 | 6 | 8 | 2 | 9 | 7 |

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

**4 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +4 | | +1 / +5 | | +6 / +10 | | +5 / +7 | |
| | 737 | → 3 | 735 | ↖ 6 | 734 | ↗ 7 | 741 | ↙ 7 |
| Вільня | +2 / +3 | | +1 / +5 | | +4 / +5 | | +5 / +3 | |
| | 746 | → 5 | 746 | ↑ 5 | 740 | ↗ 9 | 751 | ↙ 7 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.52 Захад 18.56 Даўжыня дня 11.04

Усход 10.49 Захад 1.11 Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -23,6 °С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +9,4 °С у 1998 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,0 мм у 1982 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Летась на развіццё вёсак Крывасельскі сельсавет атрымаў грант 18 тысяч долараў. Што ўжо набылі, а што яшчэ плануюць набыць за гэтыя грошы? Як да новаўвядзенняў ставіцца вяскоўцы і мясцовая ўлада, чытайце ў наступным нумары.



## «О реализации имущества ООО «Спецрезервстрой»

**Организатор торгов** ООО «Спецрезервстрой»
**Продавец** ООО «Спецрезервстрой» (УНП 690695128)
**Форма проведения торгов:** Первые торги в форме открытого аукциона
**Дата и место проведения торгов:** 04.04.2017 в 11.00 по адресу: г. Минск, ул. Сурикова, д.50.
**Сведения о предмете торгов:**
Лот №1: Капитальное строение здание специализированное иного назначения (здание гаража) инв. №630/С-16786;
Лот №2: Капитальное строение здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (столярный цех) инв. №630/С-16783;
Лот №3: Объект 1. Капитальное строение здание административное (здание АБК) инв. №630/С-1936;
Объект 2.Капитальное строение сооружение специализированное энергетики (здание ТП) инв. №630/С-74445;
Лот №4: Капитальное строение здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (пилорама) инв. №630/С-1935.

**Начальная цена:**
Лот №1 –103554 белорусских рублей 00 копеек (без НДС);
Лот №2 – 26928 белорусских рублей 00 копеек (без НДС);
Лот №3 – 61769 белорусских рублей 00 копеек (без НДС);
Лот №4 – 43969 белорусских рублей 00 копеек (без НДС).
**Порядок проведения торгов:** Шаг аукциона - 5%. Победителем торгов будет объявлено лицо, предложившее наибольшую цену. Размер задатка для участия 10% от начальной цены лота перечисляется до подачи заявления на р/с продавца.
**Заявки на участие** принимаются организатором торгов по адресу: 220026, г. Минск, а/я 109, до 03.04.2017 до 10-00. Задаток перечисляется насчет продавца - ООО «Спецрезервстрой» (УНП 690695128) р/с 3012100025094, код 153001742 в ОАО "Белгазпромбанк" г. Минск, УНП 690695128.
**Документы, необходимые для участия в торгах:** заявка на участие в аукционе; платежный документ о перечислении задатка; документ, подтверждающий полномочия на участие в торгах. Сроком поступления заявления является дата регистрации в журнале регистрации».

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як уразіць жанчыну на першым спатканні?



**Яна Вайтовіч, студэнтка:**
– У першую чаргу, канешне, выглядаць прыстойна. Калі мужчына будзе ў брудней кашулі, ён пакіне не лепшае ўражанне. Быць добрым, смешным, выхаваным, але пры гэтым асаблівым. Рабіць дзяўчыне кампліменты, але хваліць не толькі яе знешнасць.



**Дзмітры Калеснікаў, педагог:**
– Трэба быць шчырым, самім сабой. Не імкнуцца строіць з сябе мачо. І зразумець, падабаецца дзяўчыне больш слухаць або гаварыць. І далей дзейнічаць у залежнасці ад гэтага. Больш сказаць не магу, ужо даўно не было спатканняў.



**Анастасія Швядко, музыкант:**
– Трэба прымусіць жанчыну смяяцца. Жанчыны любяць мужчын за пачуццё гумару.



**Вадзім Дамарад, настаўнік:**
– Самае галоўнае – не быць замкнёным, сумным. Падчас размовы старацца пазбягаць банальных тэм і часта ўсміхацца. Не варта перабіваць дзяўчыну, калі яна штосьці распавядае. Шчырасць і сумленнасць – вось заклад правільных адносін!



**Алена Масцерава, у дэкрэтным адпачынку:**
– Мужчына на спатканні мяне ўразіў бы не кветкамі, не вопраткай, не парфумай, а інтэлектам, пачуццём гумару, пазітыўным настроем. І патрыятызмам. Для мяне гэта важна, гэта шмат аб чым гаворыць. І дзеля справядлівасці: калі ён прынясе не ружы, а васількі, буду прыемна ўражаная.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.

Шмат
• фота
• відэа
• навінаў
шукайце штодзень на сайце "РГ"
Rh.by



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№9 (1140) 3.03.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 205. Падпісана ў друк у 9.00 2.03.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.